

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 1 верасня 1989 г. № 35 (3497) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## У НУМАРЫ:


**«НЕ ПАЎТАРЫЦЬ ПАМЫЛАК»**
Чытачы абмяркоўваюць праекты законаў аб выбарах
**2**

***«Чым ганарыцца, што набліжаць»***
Палемічныя нататкі У. ДАМАШЭВІЧА
**2—3**

**«ДОКАЗЫ»** мёрскага прапагандыста і мінскага лектара
**5**

**«Крытыка—гэта...»**
На пытанні анкеты «ЛіМа» адказваюць С. ДУБАВЕЦ, А. СЯМЁНАВА, Т. ЧАБАН
**6—7**

*Новыя вершы*
С. СОКАЛАВА-ВОЮША, Т. БОНДАР
**2—3, 8—9**

**«Як я выбіраўся...»**
Дзённік экс-кандыдата
**12—15**


# Узважанасць дзеянняў, прадуманасць рашэнняў

### Водгукі на заяву ЦК КПСС аб становішчы ў рэспубліках Савецкай Прыбалтыкі

**Вільнюс.** Чарговы пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Літвы абмеркаваў заяву ЦК КПСС аб становішчы ў рэспубліках Савецкай Прыбалтыкі.

Па абмеркаваным пытанні прынята заява ЦК КП Літвы.

«Для нас з'яўляюцца зразумелымі трывога і заклапочанасць ЦК КПСС, выкліканыя неабдуманымі заявамі і дзеяннямі ва ўмовах складанай палітычнай сітуацыі некаторых асоб, якія ўдзельнічаюць у грамадскіх рухах, — гаворыцца ў дакуменце пленума.— Гэта заява абавязвае нас яшчэ раз паглядзець на пройдзены перабудовай шлях, з адказнасцю і цвяроза намеціць далейшыя крокі па адраджэнні грамадства».

«На сённяшні дзень палітыка перабудовы М. С. Гарбачова з'яўляецца асабліва спрыяльнай і плённай для Літвы, усёй Прыбалтыкі,— гаворыцца ў заяве ЦК КП Літвы. — Гэта палітыка і наша рашучасць упаўнаважылі нас адрадзіць сапраўдныя духоўныя і культурныя каштоўнасці народа, самастойна вырашаць многія праблемы ў жыцці рэспублікі».

У Літве многае зроблена для аднаўлення і новага асэнсавання гістарычнай праўды. У заяве ЦК КП Літвы звяртаецца ўвага на тое, што яна, гэта праўда, павінна быць выкарыстана не для распальвання палітычных страсцей, не для спроб праектаваць будучыню Літвы, ігнаруючы пяцідзесяцігадовы шлях савецкага развіцця. «Так, сакрэтныя пратаколы пакта Молатава-Рыбентропа і ажыццёўленыя ўслед за імі дзеянні трэба расцэньваць як палітычнае насілле, — гаворыцца ў дакуменце. — Аднак мы павінны зразумець, што юрыдычны статус рэспублікі ад гэтага не мяняецца. Мы павінны цвяроза зразумець, што Літоўская ССР у палітычным і эканамічным сэнсе інтэгравана ў СССР. Натуральна, што з такіх пазіцый нам даецца ацэнка ў вышэйпамянёнай заяве ЦК КПСС. Прагрэсіўныя перамены адбываюцца ва ўсім Саюзе. Несумненна, федэрацыя будзе ўдасканальвацца. Аб гэтым сведчыць і абнародаваная платформа КПСС па пытанні нацыянальнай палітыкі. Мы лічым, што можна быць свабоднай і суверэннай дзяржавай у Саюзе раўнапраўных рэспублік. Але гэта павінен быць не дэкларатыўны прынцып, а саюз дзяржаў, умацаваны прававымі актамі і натуральнымі палітычнымі, эканамічнымі і іншымі сувязямі».

**Рыга.** Тэма шматлікіх сходаў працоўных калектываў Латвіі, пярвічных партыйных арганізацый, актывістаў розных рухаў сёння адна — заява ЦК КПСС аб становішчы ў рэспубліках Савецкай Прыбалтыкі.

Палітра поглядаў, часам самых непрымірымых, займае асноўнае месца ў рэпартажах тэлебачання і радыё, на старонках рэспубліканскіх газет. Частка людзей падтрымлівае думку, выказаную ў звароце «Народу Латвіі». Гэты дакумент падпісаны праўленнем думы Народнага фронту Латвіі, народнымі дэпутатамі СССР і дэпутатамі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Многа прыхільнікаў мае і пратэст сарака шасці дэпутатаў, накіраваны Старшыні Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачову, дзе яны катэгарычна пратэстуюць супраць тэндэнцыйнасці ацэнкі палітычнай сітуацыі, якая, на іх думку, дэзінфармуе насельніцтва Савецкага Саюза і сусветную грамадскасць, перашкаджае перабудове рэспублікі.

Аднак з такой жа рашучасцю гучаць па ўсёй Латвіі і дыяметральна процілеглыя меркаванні, якія ўхваляюць пазіцыю ЦК КПСС. Удзельнікі нарады, якая адбылася ў Рыжскім гаркоме партыі, прааналізавалі змест заявы і лічаць, што паяўленне такога занепакоенага дакумента выклікана сур'ёзнымі працэсамі, якія адбываюцца сёння ў рэспубліках Прыбалтыкі.

У апублікаваным рашэнні ЦК Кампартыі Латвіі адзначаецца, што змешчаныя ў заяве вывады павінны стаць прадметам глыбокага асэнсавання, асновай канкрэтных дзеянняў па нармалізацыі грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы.

Нягледзячы на ўсю супярэчлівасць пунктаў поглядаў, усе іх аўтары адзіныя ў адным — цяпер патрабуецца спакой, узважанасць дзеянняў, прадуманасць рашэнняў.

**Талін.** Партыйныя сходы праходзяць на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах рэспублікі. І хоць практычна ўсюды падкрэсліваецца важнасць заявы ЦК КПСС, адносіны да яе не заўсёды адназначныя. Выказваецца думка, што гэты дакумент можа абвастрыць абстаноўку, прамоўцы выказваюць заклапочанасць залішняй рэзкасцю і катэгарычнасцю ацэнак, дадзеных у заяве.

Апублікаваны і зварот Бюро ЦК Кампартыі Эстоніі. Кампартыя Эстоніі і іншыя сілы, якія канструктыўна ўдзельнічаюць у перабудове, указваецца ў звароце, зыходзяць з таго, што Эстонская ССР уваходзіць у састаў Саюза ССР як суверэнная рэспубліка і пытанне аб магчымасцях яе развіцця — гэта перш за ўсё пытанне далейшай дэмакратызацыі Саюза ССР, радыкальнай перабудовы савецкай федэрацыі, аднаўлення ленінскіх прынцыпаў самавызначэння нацый на аснове дэмакратычных прававых гарантый.

Лёс эстонскага народа, усіх жыхароў Эстоніі, падкрэсліваецца далей у дакуменце, непасрэдна звязаны з поспехам курсу на абнаўленне ва ўсім Савецкім Саюзе. У барацьбе за перабудову, за канчатковую дэсталінізацыю грамадства, за незваротнасць дэмакратызацыі Эстонская ССР ідзе цвёрда разам з іншымі саюзнымі рэспублікамі. Іменна на гэтым заснаваны нашы агульныя мэты, якія аб'ядноўваюць народы нашай краіны і гарантуюць незваротнасць курсу партыі на перабудову.

КПЭ бачыць дзяржаўнае развіццё Эстоніі ў дэмакратычным, сапраўды раўнапраўным добраахвотным саюзе з іншымі брацкімі рэспублікамі, дзе дакладна вызначаны кампетэнцыя Саюза і рэспублік і іх узаемная адказнасць.

(Па матэрыялах ТАСС).

## «ШЧЫРА КАЖУЧЫ»

**Так называецца (па-руску — «Говоря откровенно») кніга пісьменніцкай публіцыстыкі, выпушчаная выдавецтвам «Художественная литература». Яе падзагаловак — «Нататкі пісьменнікаў аб міжнацыянальных адносінах» — дакладна вызначае кола праблем, якія хвалююць вядомых савецкіх літаратараў Чынгіза Айтматава і Валянціна Распуціна, Уладзіміра Сангі і Дзмітрыя Балашова, Сільву Капуцікян і Юлія Тууліка — усяго дваццаць пяць чалавек. Іхнія выступленні ў свой час публікаваліся ў газетах «Правда», «Комсомольская правда», «Советская Россия», «Советская культура», «Литературная газета», часопісах «Дружба народов», «Знамя», рэспубліканскім перыядычным друку.**

**Ёсць у кнізе і публіцыстычнае слова Васіля Быкава «Апошні шанц». Голас пісьменніка, які неаднойчы выступаў на старонках «ЛіМа» па надзённых праблемах развіцця нацыянальнай культуры, беларускага адраджэння, гучыць важка і пераканаўча. Да кожнага сумленнага чалавека звяртаецца наш пісьменнік: «Іншага шанца гісторыя нам не прадаставіць. Ні развіцця роднай мовы, ні забяспечанага жыцця, ні вартай нашага мінулага гістарыяграфіі нам не падорыць ніхто. Усё трэба здабываць самім. Разам са сваім народам, ва ўмовах сапраўднай, не папяровай дэмакратыі, за якую яшчэ трэба доўга і ўпарта змагацца».**

**В. ЗАКРЭЎСКІ.**

## БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА НА ХВАЛЯХ ЛІТВЫ

**Вось ужо без малога паўгода, як па другой праграме Літоўскага радыё гучыць беларускае слова. Рашэнне аб гэтым было прынята па просьбе Таварыства беларускай культуры пры Літоўскім фондзе культуры і клуба аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына» рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. Рэдакцыйная калегія, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі абодвух гэтых аб'яднанняў, узяла курс на асвятленне гісторыі беларуска-літоўскіх узаемаадносін, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця беларусаў рэспублікі.**

**Тэкставая частка ўдала дапаўняецца беларускімі музычнымі творамі, па магчымасці, малавядомымі шырокаму колу слухачоў.**

**Як паказвае аналіз грамадскай думкі, перадачы заваёўваюць сярод жыхароў Літвы ўсё большую і большую папулярнасць. Ёсць дамоўленасць з Дзяржтэлерадыё Літоўскай ССР аб павелічэнні іх перыядычнасці — магчыма, нават з чацвёртага квартала бягучага года — да адной-дзвюх перадач на тыдзень.**

**Да ведама чытачоў паведамляем, што пачуць гэтыя перадачы можна штодругую суботу ў 11 гадзін 30 хвілін на хвалі 271 метр.**

**В. СТЭХ.**

г. Вільнюс.

## *«ЛіМ» — 90*

**Менш за месяц засталося да заканчэння падпіскі на «ЛіМ». Хто не паспеў падпісацца—спяшайцеся, не згубіце апошні шанц.**

**У «ЛіМе» вы знойдзеце публікацыі на злабадзённыя, хвалюючыя сёння тэмы і праблемы: дэмакратызацыі і перабудовы, экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя, гісторыі, культуры, мовы, захавання помнікаў архітэктуры. Навінкі прозы і паэзіі, рэцэнзіі і грунтоўныя артыкулы, вострыя дыскусіі па праблемах літаратуры, мастацтва, музыкі, кіно,—усё гэта вы таксама будзеце мець магчымасць чытаць, калі станеце пастаянным падпісчыкам «ЛіМа».**

**Прыхільнікаў у нас нямала. Многія паруплíліся ўжо і выпісалі «ЛіМ» на будучы год. У рэспубліканскім агенцтве «Саюздруку» нам паведамілі, што на 15 жніўня з агульнай колькасці сёлетніх нашых падпісчыкаў афармілі падпіску на будучы год 49,3 працэнта.**

**Сярод іншых выданняў гэтыя лічбы (у працэнтах) выглядаюць так:**

**«Звязда»—43**
**«Советская Белоруссия»—31,1**
**«Чырвоная змена»—28**
**«Физкультурник Белоруссии»—24**
**«Настаўніцкая газета»—22**
**«Знамя юности»—20**

**Падпіска на «ЛіМ» прымаецца ўсімі аддзяленнямі сувязі і органамі «Саюздруку», а таксама грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку, гарадскімі і сельскімі паштальёнамі па месцы вашага жыхарства і работы без абмежаванняў і на любы тэрмін.**

**Індэкс—63856.**
**Падпісная цана на год—5 руб. 16 кап.**
**30 верасня—апошні дзень падпіскі.**

*Выбары і наш выбар*

# НЕ ПАЎТАРЫЦЬ ПАМЫЛАК

**ЧЫТАЮЧЫ ПОШТУ ТЫДНЯ**

Здаецца, толькі ўчора мы перажывалі эйфарыю ад усведамлення магчымасці выбіраць дэпутатаў вярхоўнага органа ўлады з некалькіх кандыдатаў. І ўсё-такі ў час выбарчай кампаніі нас не пакідала адчуванне недасканаласці Закона аб выбарах народных дэпутатаў. Яму, у прыватнасці, бракавала дэмакратычнасці, паслядоўнасці ў абароне канстытуцыйных правоў выбаршчыкаў. Узяць хоць бы тыя ж выбары народных дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, дзе іх дэпутацкі мандат, фактычна, не быў падмацаваны волевыяўленнем шырокіх мас, як гэта адбывалася, скажам, у час выбараў у тэрытарыяльных і нацыянальна-тэрытарыяльных акругах (вядома, пры ўмове наяўнасці альтэрнатыўных кандыдатур). Не ўпрыгожыла выбары і парушэнне дэмакратычнага прынцыпу: адзін выбаршчык — адзін голас. Некаторым катэгорыям грамадзян была прадастаўлена магчымасць галасаваць некалькі разоў. Неўразуменне выклікаў і інстытут акруговых сходаў: яны часта ператвараліся ў своеасаблівыя фільтры, праз якія не праходзілі прэтэндэнты, чые палітычныя і грамадскія погляды, пазіцыя не задавальнялі мясцовыя партыйныя і савецкія органы.

Можна назваць і іншыя заганы, якія тычыліся тэарэтычнай распрацоўкі і практычнага ажыццяўлення новага выбарчага закона.

Здавалася б, на памылках вучацца. На жаль, гэтае мудрае правіла ў многім праігнаравалі аўтары апошніх, распрацаваных у рэспубліцы выбарчых дакументаў. Многае з таго, што дэкларуецца ў праектах Законаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР, аб выбарах народных дэпутатаў БССР, выбарах народных дэпутатаў мясцовых органаў улады, абвергнута часам, супярэчыць нормам дэмакратычнага грамадства, уваскрашае дух застою, чыноўніцкага дыктату.

Такая ацэнка названых дакументаў дамінуе ў большасці лістоў, атрыманых апошнім часам «ЛіМам». «Нам неабходна правесці дэмакратычныя выбары ў мясцовыя Саветы і ў Вярхоўны Савет рэспублікі, што дасць магчымасць прадаставіць уладу тым, хто сапраўды карыстаецца даверам народа, — піша кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага У. Туняк. — Якімі ім быць, дэмакратычным выбарам? У 1905 годзе У. І. Ленін у працы «Тры канстытуцыі або тры парадкі дзяржаўнага ладу» пісаў, што дэмакратычная рэспубліка — гэта такі дзяржаўны лад, які забяспечвае «...усеагульныя, прамыя і роўныя выбары з тайнай падачай галасоў». Даводзіцца шкадаваць, што праект Закона «Аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР» не адпавядае ўсім тром ленінскім патрабаванням, якія абумоўліваюць справядлівыя выбары. Хоць артыкул 85-ты праекта гэтага Закона дэкларуе ўсеагульнасць і роўнасць выбараў, артыкулы 84, 86, 87, 107 прадугледжваюць выбары народных дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, якія з'яўляюцца выбарамі не прамымі і не роўнымі, бо тут ігнаруецца волевыяўленне асноўнай масы выбаршчыкаў. Адны выбаршчыкі набываюць, згодна з Законам, права галасаваць за дэпутатаў ад Камуністычнай партыі, прафсаюзаў, камсамола, другія — за адняго кандыдата па месцы свайго жыхарства».

Наш чытач з Маладзечна П. Бузаў лічыць, што народныя дэпутаты ад грамадскіх арганізацый фактычна адарваны ад асноўнай масы выбаршчыкаў, бо абраны вузкім колам калег па працы, прафесійнай дзейнасці.

Прадугледжаныя праектам Закона выбары ад грамадскіх арганізацый чвэрці ўсяго дэпутацкага корпуса Вярхоўнага Савета БССР выклікалі негатыўную рэакцыю нашых чытачоў С. Трахімчука, В. Нікалаенкі, П. Нікульчыка. «Я за тое, каб скасаваць артыкулы Закона, якія прадугледжваюць выбары дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, — піша С. Трахімчук. — Няхай гэтыя арганізацыі вылучаюць кандыдатамі ў дэпутаты сваіх прадстаўнікоў, але галасаванне за іх павінна адбывацца на агульных падставах па тэрытарыяльных выбарчых акругах».

Гэта ж прапануе і С. Карзей з Маладзечна: «Можна пакінуць за грамадскімі арганізацыямі права вылучаць сваіх кандыдатаў (нават у нормах, прадугледжаных праектам Закона), але выбіраць іх павінен народ непасрэдна ў тых акругах, дзе кандыдат жыве. Інакш як жа яны могуць сябе лічыць народнымі дэпутатамі, абраннікамі народа?»

С. Карзея прывяло ў непаразуменне палажэнне, згодна з якім кандыдатамі ў народныя дэпутаты БССР, як правіла, вылучаюцца грамадзяне, што працуюць або пражываюць на тэрыторыі адпаведнай выбарчай акругі. Ці не з'яўляецца гэта, пытаецца ён, своеасаблівай лазейкай для атрымання дэпутацкіх мандатаў начальствам?

У некаторых лістах выказваецца нязгода з прапанаваным Законам парадкам вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў у народныя дэпутаты. Засмучае аўтараў лістоў палажэнне, згодна з якім у выбарчыя бюлетэні можна ўносіць любую колькасць дэпутатаў. Але ж слова «любую» не выключае і ўключэння ў бюлетэнь толькі адной кандыдатуры. «Зноў у нас будуць не выбары, а фармальнае галасаванне, як некалі, — піша В. Басак, аспірант Беларускага НДІ глебазнаўства і аграхіміі АН БССР. — Я прапаную прадугледзець у Законе абавязковыя альтэрнатыўныя выбары, каб у выбарчыя бюлетэні магла ўносіцца любая колькасць кандыдатур, але не менш дзвюх».

В. Басак прапануе таксама ўстанавіць для кандыдатаў у дэпутаты цэнз пражывання на тэрыторыі выбарчай акругі, які б складаў не менш аднаго года. «Тады адсеюцца «гастралёры» з ліку кіраўнікоў рэспублікі і абласцей, якія вельмі любяць балаціравацца (пры тым, у гордым адзіноцтве, без сапернікаў) у глыбінцы», — піша Віктар Мікалаевіч.

Ну, а як выбіраць Старшыню Вярхоўнага Савета — прэзідэнта рэспублікі? У праекце Закона «Аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР» гаворыцца, што прэзідэнта рэспублікі выбіраюць члены Вярхоўнага Савета. Большасць аўтараў дасланых у рэдакцыю лістоў лічаць, што прэзідэнта трэба выбіраць прамым галасаваннем усяго насельніцтва. «Неабходна, каб старшыня Вярхоўнага Савета БССР выбіраўся прамым, роўным і ўсеагульным галасаваннем усіх жыхароў рэспублікі, а не толькі народных дэпутатаў БССР, як гэта прадугледжана артыкулам 107 праекта Закона». Гэта радкі з ліста У. Туняка, якога мы ўжо цытавалі. В. Ляўчук з Гомеля лічыць, што амаль ва ўсіх дэмакратычных краінах з прэзідэнцкай формай кіравання прэзідэнта выбіраюць прамым галасаваннем. «Кожны грамадзянін павінен мець права выбіраць прэзідэнта краіны», — піша ён.

Адна з самых яскравых прыкмет сённяшняга дня — небывалы ўздым палітычнай і грамадзянскай актыўнасці людзей. Усё, што тычыцца перабудовы, дэмакратызацыі грамадства, успрымаецца намі надзвычай востра і зацікаўлена. Вось і выбарчыя законы (калі такое было?) выклікалі да сябе пільную ўвагу.

Згодна з пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР выканкомам абласных, раённых, пасялковых і сельскіх Саветаў прапанавана старанна ўлічваць і абагульняць усе прапановы і заўвагі, выказаныя ў час абмеркаванняў праектаў Законаў. Што ж, справа патрэбная. Будзем спадзявацца, што і голас нашых чытачоў будзе пачуты.

**Аддзел публіцыстыкі і нарыса «ЛіМа».**

# З АДНАГО НЕ ВЫБІРАЮЦЬ...

**У праекце Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў БССР» ёсць шэраг палажэнняў, якія выклікаюць нязгоду.**

Цяжка зразумець, чаму ў законапраекце прапануецца выбар дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый. Па-першае, рэспубліка, калі ўважліва паглядзець, самастойных грамадскіх арганізацый, так бы мовіць, не мае. Беларускія пісьменнікі ўваходзяць у Саюз пісьменнікаў СССР, што па-руску і па-беларуску пазначана ў членскім білеце. Журналісты аб'яднаны ў Саюз журналістаў СССР, кампазітары—у Саюз кампазітараў СССР і г. д. Інакш кажучы, уласных творчых саюзаў на Беларусі няма, ва ўсялякім разе, мала які з іх мае ўласны статут, членства, білеты, узносы (хіба што адзін Саюз тэатральных дзеячаў).

Трэба адзначыць, што няма і аформленай Камуністычнай партыі Беларусі. Ёсць рэспубліканская арганізацыя КПСС з разгалінаваным па абласцях і раёнах кіраўніцтвам, але гэта ўсё ж не партыя. Бо КПБ не мае сваёй праграмы, статута, членскіх білетаў. Назва КПБ— даніна гісторыі, у краіне сёння ёсць адна партыя — КПСС. Тое ж тычыцца прафсаюзаў, камсамола і мноства іншых грамадскіх арганізацый. Усе яны з'яўляюцца рэспубліканскімі аддзяленнямі агульнасаюзных утварэнняў.

Але ў гэтай якасці беларускія аддзяленні ўжо ўдзельнічалі ў выбарах народных дэпутатаў СССР. Тут хоць захоўвалася пэўная фармальная адпаведнасць. Але для ўдзелу агульнасаюзных арганізацый у фарміраванні корпусу народных дэпутатаў БССР наўрад ці можна знайсці юрыдычныя, а тым больш маральныя падставы. Праект трымаецца знешняга капіравання, аднак вельмі зручнага для бюракратыі. Па-другое, дэпутаты ад грамадскіх арганізацый ніяк не могуць называцца народнымі дэпутатамі. Агаворанае ў праекце галасаванне за гэтых кандыдатаў на пленумах робіць прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый «дэпутатамі ад эліты». Іншымі словамі, праект наўмысна ці ненаўмысна прапануе двухпалатны Вярхоўны Савет БССР, дзе ў адной палаце будуць дэпутаты, абраныя народам, у другой — абраныя вузкім колам кіруючых асоб. Дзе ж тут роўнасць і для каго закладзены ў праект «чорны ход» на лавы Вярхоўнага Савета!

У выпадку, калі ўлады няздольныя абысціся без дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, выйсцем з гэтай няёмкай сітуацыі павінна стаць папярэдняе стварэнне рэспубліканскіх грамадскіх і палітычных арганізацый, творчых саюзаў і да т. п., якія выпрацуюць свае праграмы і статуты і зарэгіструюцца ў Вярхоўным Савеце БССР. Але і пасля набыцця законных правоў на існаванне рэгламент выбараў ад грамадскіх арганізацый трэба агаварыць абавязковай умовай аб тым, што кандыдатамі ў дэпутаты вылучаюцца выключна радавыя члены арганізацыі. Кіраўнікі, якія жадаюць балаціравацца на выбарах, змагаюцца за народны давер у тэрытарыяльных акругах.

Самы, бадай, незвычайны пункт праекта закона — пагроза пакараннем за агітацыю і заклікі да байкоту выбараў. Такога яшчэ не было. Гэта ўжо непрыкрыты наступ на канстытуцыйныя правы грамадзян. Байкот — законная форма пратэсту ў тых выпадках, калі выбары па пэўных прычынах губляюць свой дэмакратычны характар. Напрыклад, калі выбарчай акрузе праз адладжаныя механізмы навязаны зверху адзін кандыдат. Забарона байкоту стварае такім кандыдатам «режим благоприятствования», навешвае на вусны нязгодных цяжкі замок. Калі гэты радок праекта набудзе сілу закона, дык словы «Не будзем галасаваць за таварыша такога-та» стануць крымінальным злачынствам з адпаведным пакараннем. Клопат аб грамадзянскай пакорлівасці— заўжды сведчанне таталітарнага мыслення. Зразумела, што ад забароны байкоту застаецца адзін крок да прымусовага галасавання.

Паклапаціліся творцы праекта і пра надзейны сродак адлучэння няўгодных бюракратыі кандыдатаў — акруговыя сходы. Тут ёсць адзін вельмі сумны і небяспечны аспект. Абыякавасць адказных асоб да шматлікіх пратэстаў супраць практыкі акруговых сходаў, што выказваліся ў ходзе выбарчай кампаніі і гучалі на першым З'ездзе народных дэпутатаў СССР, дазваляе думаць, што стваральнікі праекта пакінуць па-за ўвагай і ўсе няўгодныя ім пярэчанні супраць дадзенага праекта.

Закон аб выбарах закранае інтарэсы кожнага дарослага грамадзяніна, таму яго ўхваленне пасля шырокага абмеркавання павінна стаць актам рэспубліканскага рэферэндума. І нарэшце, галоўная гарантыя ад памылак — публікацыя ў рэспубліканскім друку альтэрнатыўных праектаў. Каб выбаршчыкі мелі магчымасць параўнаць і выбраць больш дэмакратычны. Пакуль што выбіраць няма з чаго: з аднаго яблыка лепшы не выбіраюць.

**Кастусь ТАРАСАЎ.**

*Надзённыя радкі*

**Сяргей СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

●

Ні КДБ і ні ЦК,
Ні шлях зацверджаны, адзіны,
А прага шчасця для Айчыны
Кіруюць сэрцам мастака.

Калі ягоная душа
Імкнецца ў фарбы, ноты,
словы,
Не новы заклік ідзёвы
Яе вядзе туды спярша.

І як жа прыкра назіраць,
Калі чыноўніцкая зграя
Сацрэалізмам вымярае,
Што трэба сэрцам вымяраць.

Ён працаваў, як толькі мог:
Кляпаў, ляпіў, збіваў і пражыў,
Там дадаваў, там раўнаважыў:
Ствараў планету нашу Бог...

Я не гісторык і не збіраюся пісаць навуковы трактат. Я хачу толькі кінуць беглы позірк на нашу гісторыю, якую сёння мы ўсе хочам бачыць напісаную аб'ектыўным, непрадузятым гісторыкам-патрыётам, які не азіраўся б ні на якія кан'юнктурныя павевы, што ідуць ад пэўных груп ці груповак, гатовых і далей трактаваць нас малодшымі братамі, слугамі і парабкамі, толькі не народам, які ішоў сваім уласным шляхам. Гісторык не павінен станавіцца ў позу суддзі і судзіць нашых продкаў за тое, што яны, напрыклад, ваявалі з Іванам Грозным ці ішлі на унію, саюз з Польшчай. Яны глядзелі на тагачаснае жыццё сваімі вачыма і ведалі, што рабіць — каго лічыць сваім ворагам, а каго выбіраць у саюзнікі. Якраз нашым гісторыкам са «школы» Абэцэдарскага і не хапае смеласці і прынцыповасці прызнаць аб'ектыўны закон гісторыі: як было, так і трэба прымаць, не змяняючы і не падфарбоўваючы.

Чаму нашы гісторыкі «школы» Абэцэдарскага, такія ваяўнічыя атэісты, глядзяць на гісторыю Расіі, а тым больш Беларусі, Літвы, Польшчы вачыма праваслаўнай царквы: усё, што за праваслаўе, тое мудра, тое прагрэсіўна, усё, што супроць праваслаўя,— рэакцыйна і антыгістарычна?

Прычына тут адна: праваслаўе і самадзяржаўе — адно непадзельнае цэлае. Той, хто за «вялікую і непадзельную», той заўсёды будзе і за праваслаўе, а каталіцтва, уніяцтва — гэта адвечныя яго ворагі, гэта носьбіты схізмы і сепаратызму.

Гісторыя Беларусі, як народа ніяк не ўкладвалася ў пракруства ложа «малодшага брата», і «школа» Абэцэдарскага рабіла ўсё, каб абсекчы, абламаць усе жывыя галіны, якія не хацелі ўмяшчацца ў рамкі схемы. А не ўмяшчалася шмат чаго, што нам не хацелі паказваць — каб хаця мы не «возомнили». Паказаць нашу гісторыю такою, якой яна была, лічылася вялікаю і недаравальнаю крамолай. За такі непрадузяты і аб'ектыўны паказ паплаціўся жыццём не адзін наш гісторык.

Узяць хоць бы тэорыю «за-

**На старонках беларускага друку вядзецца публічная палеміка па пытаннях мовы. Можна прасачыць, як яе вядуць гісторыкі і філолагі ў рэспубліканскай і абласной прэсе, і гэта чытачу больш-менш вядома. Але ёсць яшчэ і раённы друк, да якога дабягаюць хвалі спрэчак і на які па-за межамі асобных раёнаў ніхто не звяртае ўвагі.**

**Шкада, што не звяртаюць увагі. Бо раённыя публікацыі непасрэдна ўздзейнічаюць на самага асноўнага для пытання аб нацыянальнай мове чытача—на жыхара вёскі і мястэчка. Калі і там адмовяцца ад этнічных карэнняў—тады наступіць сапраўдны канец мове, пагібель беларускага этнасу.**

# «ДОКАЗЫ» МЁРСКАГА ПРАПАГАНДЫСТА...

Вось чаму я звярнуў увагу на артыкул прапагандыста Ф. Шымуковіча «Аўтарытэт мовы», які надрукавала мёрская раённая газета «Сцяг працы». Змест артыкула насцярожыў, бо ў ім шмат месц, якія выклікаюць прынцыповыя пярэчанні. Сэнс артыкула ў тым, што пераход ад беларускай мовы да рускай беспаваротны, што «галоўная наша задача — паскарэнне тэмпаў росту эканомікі» — «вось той рычаг, куды мы павінны прыкласці свае сілы незалежна ад мовы, на якой гаворым» (цытую аўтара артыкула).

Па-першае, насцярожыла імкненне Ф. Шымуковіча — без канкрэтных спасылак — прыпісаць сваім апанентам, нібыта яны «гатовы прыняць спецыяльны закон аб мове і нават прадугледзець кару для гаворачых па-іншаму. На жаль, гэтай хваробай захварэлі таксама некаторыя педагогі».

Хоць імёны «некаторых» аўтар артыкула не назваў, бо, хутчэй за ўсё назваць не мог (дадзеных не стае), затое абвінаваціць — у духу трыццатых-саракавых гадоў — абвінаваціў. Знайшоў вобраз «ворага ўнутранага», які нібыта спіць і марыць кагосьці знішчыць.

І вось адказ Ф. Шымуковіча ўяўным «унутраным ворагам»: «Паважаныя барацьбіты за чысціню нашай нацыі, успомнім, ці дабіўся хто павароту гістарычнага працэсу нават інквізітарскімі метадамі? Няма такога прыкладу і не будзе!»

Вось бачыце: ужо тыя, хто спрабуе дамагчыся захавання роднай мовы, сталі і «барацьбітамі за чысціню нацыі»! Як жа проста ад аднаго перайсці да другога, не абцяжарваючы сябе доказамі!

А вось накont таго, што «інквізітарскімі метадамі» можна дабіваца павароту гістарычнага працэсу, дык, здаецца, XX, XXII і XXVII з'езды партыі рашуча асудзілі менавіта такія метады, якія акрэслілі як культ асобы Сталіна. Так што калега Ф. Шымуковіч праяўляе тут пэўную недасведчанасць, хоць прапагандысту такая недасведчанасць у пытаннях навейшай гісторыі сваёй краіны, можна сказаць, супрацьпаказана.

Далей Ф. Шымуковіч пытаецца: «І ці важна, на якой мове мы будзем размаўляць? Галоў-нас, каб разумелі адзін другога», спаслаўшыся пры гэтым — на мой погляд, зусім не да месца — на Ф. Энгельса.

Для каго не важна, на якой мове размаўляць, а для каго і важна. Для Ф. Шымуковіча, можа, і не важна, а для грамадскасці, якая разам з уладамі БССР стварыла Таварыста беларускай мовы, важна.

Ф. Шымуковіч для пацвярджэння сваёй думкі прыводзіць у прыклад тое, нібыта крывічы, дрыгавічы і радзімічы, з якіх склаўся беларускі этнас, размаўлялі кожныя сваёй асобнай мовай. Аднак сучасная філалагічная навука невядомы мовы гэтых трох плямёнаў. Тым больш, што мовы плямёнаў і мовы этнасаў (народаў, нацый) —беларусаў і рускіх у дадзеным выпадку—гэта розныя рэчы. У беларусаў і рускіх ёсць сфарміраваныя культуры і мовы, і замена адных другімі—гэта зусім не «зліццё» моў і культур трох плямёнаў.

Прапагандыст Ф. Шымуковіч спрабуе сцвярджаць свой тэзіс пра зліццё нацый тым, што прыводзіць азначэнне нацыі, цалкам узятае з кнігі «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», на якую сучасныя паспелі забыцца.

Але сучасная этнаграфічная навука зусім інакш, чым пяцьдзесят год назад у «Кароткім курсе», акрэслівае этнас (зараз пад гэтым паняццем разумеюць і племя, і народ, і народнасць, і нацыю). Калі Ф. Шымуковіч паўтарае за сталінскім «Кароткім курсам», што «нацыю аб'ядноўваюць агульнасць мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу» (упершыню І. В. Сталін прывёў гэтыя чатыры прыкметы нацыі ў сваёй працы «Нацыянальнае пытанне і ленінізм» у 1929 г., але надрукавана яна была праз дваццаць год), то зараз савецкая этнаграфічная навука лічыць этнасам гістарычна складўшуюся на пэўнай тэрыторыі ўстойлівую сукупнасць людзей з агульнымі асаблівасцямі мовы, культуры, псіхікі, усведамленнем свайго адзінства і адрознення ад іншых падобных стварэнняў, фіксаваных у так званай саманазве. (Ю. В. Бромлей. Современные проблемы этнографии (очерки теории и истории). М., Наука, 1981). Як бачым, пра агульнасць эканомікі тут няма мовы. Стары рускі тээрэтык этнаграфіі Максім Кавалеўскі яшчэ 70 год таму назад папярэджваў, што «национальность прежде всего сказывается в чувстве взаимного тяготения, т. е. в области не экномической и не политической в строгом смысле слова, а в области народных чувствований и желаний, то есть явлений психологического порядка».

А Ф. Шымуковіч даказвае, каб апраўдаць абавязковасць знікнення беларускай мовы, што ў беларусаў і рускіх няма адрозненняў у псіхалагічным складзе. Прычым заўважае: «Асабіста я такіх адрозненняў не бачу». Ён не бачыць, але пакаленні этнографаў — і дарэвалюцыйных, і савецкіх — бачылі і бачаць гэтыя адрозненні, даследаванні іх даказваюць, што такія адрозненні ёсць.

Далей Ф. Шымуковіч піша аб тэрыторыі пражывання беларусаў і лічыць, што граніцы рэспублік існуюць толькі на картах. Ну і што? — спытаюся я. Ці ж пра межы рэспублік ідзе гаворка? А тыя сотні тысяч беларусаў, якія жывуць па-за межамі БССР і не толькі лічаць сябе беларусамі, але і ствараюць, дакладней кажучы, узнаўляюць свае культурныя таварыствы ў розных кутках краіны? Мусіць, Ф. Шымуковіч не хоча памятаць, што ў дадзеным выпадку ідзе гаворка не пра межы рэспублік, а пра межы этнасаў, якія існуюць незалежна ад межаў рэспублік?

**Галоўныя ж доказы сваёй рацыі Ф. Шымуковіч прыбярог на канец. Ён піша: «Дык каго вінаваціць у тым, што асноўная большасць беларусаў жадае гаварыць на рускай мове? А можа, пачаўся той гістарычны працэс, калі ідзе збліжэнне нацый? Раз гэта так, то нас, беларусаў, ніхто сілком у яго не ўцягваў. Стварыліся ўмовы, і мы свядома і добраахвотна выбралі свой шлях. І хто, як не наш старэйшы рускі брат заўсёды працягваў руку дапамогі беларусам? Дык не лепш нам жыць адзінай сям'ёй? Тут галоўнае, каб не наламаць дроў хуткімі вывадамі. Каб не перайсці да нацыяналізму, праводзячы агітацыю за беларускую мову».**

**Вось так. Каго ж сапраўды вінаваціць у тым, што асноўная большасць беларусаў перайшла на рускую мову? Беларускія гісторыкі паспрабавалі адказаць на гэтае сумнае пытанне. Доктар гістарычных навук А. Філімонаў піша: «Усім вядома, што як напярэдадні, так і ў пасляваенныя гады ў Беларусі ўсё больш і больш недаацэньвалася беларуская мова. Асабліва гэта стала праяўляцца ў школьнай справе. У дзяржаўных і партыйных органах паступова перасталі размаўляць і весці справаводства на беларускай мове, кіраўнікі ўсё радзей выступаюць на афіцыйных сходах па-беларуску. Такім чынам, адбылося адступленне ад ленінскіх ідэй па нацыянальным пытанні». Доктар гістарычных навук Л. Лыч паспрабаваў дакладна вызначыць прычыны гэтага працэсу: «Усталяванне камандна-бюракратычнай сістэмы, разгул сталінска-берыеўскіх рэпрэсій паслужылі прычынай таго, што ўся дзяржаўна - прававая дзейнасць у галіне беларускай духоўнай культуры была скіравана на тое, каб за кошт нацыянальнага пашырыць у ёй элементы інтэрнацыянальнага, што ва ўмовах нашай рэспублікі значыла—рускай. І такое даволі паспяхова адбылося, але ж, падкрэслім, не па ініцыятыве мас, а дзякуючы свядомай, спланаванай дзейнасці саміх дзяржаўных органаў». У другім месцы Л. Лыч падкрэслівае, што ў Канстытуцыі БССР 1978 г. ніякіх сацыяльных гарантый беларускай мове, яе носьбітам не даецца: «Адносна вызначэння мовы навучання ў агульнаадукацыйнай школе тут усё па-ранейшаму аддавалася на водкуп бацькам вучняў. Адміністратары-чыноўнікі, не будучы зацікаўленымі ў захаванні, развіцці беларускай мовы, наперад ведалі, што бацькі будуць выбіраць тую мову, на якой вучаць у тэхнікумах і інстытутах, на якой будуецца ўсё нашае дзяржаўнае, партыйнае, эканамічнае жыццё. Менавіта так на практыцы і паступалі бацькі, бо ніхто іншы, як сама дзяржава, штурхала іх на такія крокі». («ЛіМ» за 21 красавіка 1989 г.).**

**Ёсць каго вінаваціць, шаноўны калега Ф. Шымуковіч, у тым, што беларусы перайшлі на іншую мову! Толькі Вы не хочаце назваць вінаватых (бо гэта не ўваходзіць у Вашу схему).**

**Дарэчы, наконт «старэйшага брата». Акадэмік М. Майсееў падкрэслівае, што «в других республиках решения Москвы отождествлялись зачастую с «русским решением», и все хозяйственные и политические неудачи, все несправедливости нередко связывались именно с нами — русскими. Достоинство же русского человека в силу нашей демократической культурной традиции — это быть равными среди равных. Но не больше! Без всяких там «старших братьев». Употребление этого словосочетания само по себе оскорбительно не только для остальных народов, но и для русского в первую очередь: какими мы можем быть «старшими братьями» для грузин, армян, таджиков, других народов, чья культура на многие сотни лет старше нашей!» («Коммунист», 1989, № 8).**

Чытаючы артыкул Ф. Шымуковіча, я ўвесь час успамінаў аргументацыю некаторых нашых землякоў у мінулым супраць беларускай мовы. Надта ж яна падобная да аргументацыі сучаснага прапагандыста. У 1908 г. у нашым краі было створана таварыства «Белорусское общество» на чале з Лукашом Саланевічам. Афіцыйным ягоным органам была газета «Белорусская жизнь»; з нумара 169-га заснавальнікі газеты палічылі мэтазгодным перайменаваць яе ў «Северо-западную жизнь», паколькі палічылі ранейшы загаловак «вузкім». Цікавая рэзалюцыя ўстаноўчага сходу «Белорусского общества»: «Заўважаючы, што беларуская інтэлігенцыя, як праваслаўная, так і каталіцкая, дасюль атрымлівала адукацыю выключна на расійскай мове, і што такім чынам гэтая мова з'яўляецца найбольш агульнай для ўсіх, што беларуская мова ў выніку гістарычных умоў была паўстрыманай на працягу некалькіх стагоддзяў у сваім натуральным развіцці і аказваецца недастаткова распрацаванай для ўцягвання беларусаў да агульнасусветнай культуры,—сход заўважае, што найбольш адпаведнай для культурнай дзейнасці «Бел. т-ва» і для культурн. развіцця беларускае народнасці можа быць толькі расійская мова».

«Белорусская жизнь» заклікала беларусаў: «Кінце, беларусы, вашу брыдкую і нягодную мову! Ужываць яе можна толькі ў хаце, ды ў хляве пры скаціне, а між людзей з ёю не суньцеся. Вы ўсе павінны гаварыць і вучыцца па-расейску, павінны быць рускімі, адрокшыся ад усяго роднага» («Наша Ніва», 1909, № 3).

Так што прапагандыст Ф. Шымуковіч прапагандуе не новыя погляды.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**
г. Ленінград.

# ...І МІНСКАГА ЛЕКТАРА

«Мова ці эканоміка?»—пад такой назвай у «Вячэрнім Мінску» за 25 жніўня змешчаны допіс У. Голуба. Эканаміст, лектар таварыства «Веды» ставіць пытанне, што называецца, рубам: або — або. Або поўныя прылаўкі і матэрыяльны росквіт, або мы пачынаем вывучаць родную мову, пераводзім на яе ВНУ і... Мусіць, нешта надзвычайнае адбудзецца ў краіне, калі беларусы скарыстаюць свае права, гарантаванае Канстытуцыяй.

Да дзіўнага супрацьпастаўлення аўтара падштурхнулі, як вынікае са зместу, чытачы. (Чаму не слухачы, калі піша лектар?) «Што з'явіцца ў магазінах, калі мы будзем размаўляць толькі па-беларуску?» — цікавяцца яны. Чакайце, адкуль гэта толькі? Хіба «беларускія гуманітарыі» выступаюць супраць рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін? Або нам і тут хочуць навязаць недарэчнае або — або?

Замест таго, каб папулярна растлумачыць чытачам, што эканоміка наша зайшла ў тупік зусім не з-за празмернай увагі партыі да росквіту нацыянальных культур, тав. Голуб прымітызуе і вульгарызуе пытанне. Працытаваўшы сталінскае вызначэнне нацыі, ён прыводзіць «словы М. С. Хрушчова, сказаныя ім гадоў трыццаць назад у БДУ: чым хутчэй мы будзем усе размаўляць па-руску, тым хутчэй прыйдзем да камунізму». Словы гэтыя прыводзіліся ў друку неаднойчы і ў розных інтэрпрэтацыях, але нязменна суправаджаліся іранічным каментарыем, крытыкай, і толькі прадстаўнік таварыства «Веды» прастадушна прызнаецца, што яму яны імпануюць.

Аўтар допісу, здаецца, нічога не мае супраць беларускіх школ і называе лічбы—8 школ і 43 класы, што будуць працаваць па-беларуску ў сталіцы. (На жаль, мы не маем звестак па іншых гарадах і раённых цэнтрах). Але вось наконт ВНУ ён катэгарычна супраць. Для прыкладу бярэцца Беларускі інстытут народнай гаспадаркі. Там жа дзесяткі нацыянальнасцей і сярод студэнтаў, і сярод выкладчыкаў. Куды ім пераходзіць у выпадку пераводу на беларускую мову? — пытаецца тав. Голуб. «У рэспубліцы ж «нархоз» адзін». Так, у рэспубліцы адзін, але ж іх многа ў краіне. Не, каб задумацца тав. Голубу: а чаму гэта ў інстытуце вучыцца столькі прадстаўнікоў няблізкіх закаўказскіх, сярэднеазіяцкіх рэспублік і іншых рэгіёнаў? Чым іх так прывабліваюць нашы не самыя прэстыжныя ў краіне інстытуты?

А тут жа яшчэ і замежныя студэнты, нагнятае праблемы аўтар. Як быць з імі?

Для тых, каго не пераканаў прыклад з замежнымі студэнтамі (і як іх, цікава, навучаюць у іншых рэспубліках?!), выкладваецца «казырны» аргумент: крызісны стан эканомікі. Пераход вышэйшай школы на беларускую мову аўтар параўноўвае ні менш, ні больш, як з «вялікімі будоўлямі камунізму» і нават з паваротам паўночных рэк. Нічога сабе параўнанне — на фоне нядаўна апублікаванай платформы КПСС, дзе прадугледжваецца стварэнне ўмоў для свабоднага развіцця нацыянальных культур і моў.

Беларусізацыя ў вышэйшай школе, палохае аўтар, гэта «велізарныя дадатковыя фінансавыя і матэрыяльныя сродкі». Рэгуліроўшчык Мінскага электрамеханічнага завода У. Краўчанка ў сваім лісце ў «ЛіМ» (ён друкуецца ў гэтым нумары) таксама піша, што «мусіць жа, не адзін мільён спатрэбіцца на замену шыльдаў, бланкаў і г. д., на пераклад інструкцый, указанняў, тэхнічнай літаратуры». Увогуле прыхільна ставячыся да роднай мовы, наш чытач усё ж сумняваецца, што пры ўвядзенні дзяржаўнасці беларускай мовы гараджане змогуць **заўтра** на ёй загаварыць. Як быццам хто-небудзь спадзяецца, што гэта можна зрабіць сходу, адным махам, без псіхалагічнай ломкі і цяжкасцей. Праўда, давodзіцца чуць пра дужа здольную варону з парку імя Чэлюскінцаў, якую навучылі вымаўляць дзесяць беларускіх слоў. Ну, вароне прасцей... Яна, вядома, не чытае сталічнай вячэрняй газеты, а інакш і ад дзесятка свайго магла б адцурацца, каб толькі не наламаць «сацыяльна-нацыянальных дроў».

Ад паспешнасці, перакосаў, «адбівання паклонаў» узмоцнена перасцерагаюць нас ідэалагічныя цнатліўцы, у тым ліку і У. Голуб. Што ні кажыце, а лектары — людзі адукаваныя. І «Кароткі курс гісторыі ВКП (б)» ён ведае, і М. С. Гарбачова цытуе, і Маркса не забыў пахваліць за мудрую думку... Слова «асіміляцыя», якое ўзнікла па ходу гаворкі, ён далікатна пазбягае і цешыць нас эўфемізмам «кансалідацыя».

Такая вось «пісьмовая» лекцыя для паўтарамільённага горада...

**ЛІМАВЕЦ.**

## *Анкета «ЛіМа»: слова крытыкам*

**Пад рубрыкай «Анкета «ЛіМа»: слова крытыкам» мы змясцілі адказы І. Афанасьева, Д. Бугаёва, І. Багдановіч, І. Жука, А. Сідарэвіча. Нагадваем пытанні, з якімі мы звяртаемся да прадстаўнікоў крытычнага цэха:**

**1. Як суадносяцца, на Вашу думку, узроўні сучаснай беларускай крытыкі і літаратуры?**

**2. Ці ёсць рэальныя падставы спадзявацца, што крытычная думка ў бліжэйшы час зробіць рывок у асэнсаванні літаратурнага працэсу?**

**3. Некаторыя пісьменнікі лічаць, што крытыкі — гэта ў пераважнай большасці людзі, якія не здолелі праявіць сябе ў іншых жанрах. Што Вы думаеце на гэты конт?**

**4. «Я народжаны, каб называць рэчы іх імёнамі». Наколькі адпавядае пазіцыя сучаснай крытыкі і Ваша асабіста гэтаму выслоўю В. Бялінскага?**



**Сяргей ДУБАВЕЦ**

# ПЕРААДОЛЕННЕ СЯБЕ

Літаратура наша хворая. І, можа быць, нават смяротна. А крытыка — што ёй застаецца рабіць! — літаратуру супакойвае якім-небудзь традыцыйным ВРЗ і сама верыць у такі свой дыягназ.

Літаратура наша амаль спрэс — імітаваная. Як мова, як школа, як дзяржава з яе марыянеткавым членствам у ААН... Роля такой бутафорскае літаратуры, яе ўдзельная вага ў жыцці, духоўным і маральным забеспячэнні нацыі — нікчэмная, як нікчэмныя наклады яе кніг, часопісаў і газет. Гэта ж праўда, што ў кожным беларускім доме хутчэй ведаюць, чытаюць і спавядаюць, напрыклад, Паўла Якубовіча ў «Знамени юности» і «Роднике», чым Ніла Гілевіча ў «ЛіМе» і «Маладосці». Пры гэтым абсалютным правам увайсці ў кожны дом і стаць там сябрам сямейства, дарадцам, прарокам карыстаюцца маскоўскія аўтары і выданні. Хто ў такім разе маральны настаўнік нацыі і яе сумленне?.. Ужо ж не свае, беларускія пісьменнікі—добраахвотныя маралізатары.

Унутраны ранжыр ізаляванага пісьменніцкага асяроддзя зусім адрозны ад вонкавага. Публіка «дастае» і чытае Пікуля, паспрабуйце набыць Гесэ, Кафку ці Стрындберга... Толькі двойчы у кнігаабменах я бачыў кнігі беларускіх аўтараў — Быкава і Караткевіча. Па-руску, вядома. Для каго пішуць і выдаюцца людзі з арганізацыі на Фрунзе, 5?

Наша літаратура ніяк не ўплывае на мэты, арыенціры і ўяўленні свайго народа. Сталіншчына і дэфармацыі нацыянальнае палітыкі — ужо не раз названыя прычыны гэтага. І гэтыя прычыны — дзейнічаюць. У прынцыпе нічога не змянілася ў арганізацыі літаратурнага жыцця з часоў Іосіфа Сталіна. Патэнцыял гэтай арганізацыі па-свойму раскрыўся ў часы Брэжнева. Як — я растлумачу.

Асабіста мне сёй-той з пісьменнікаў імпануе як аб'ект. Як суб'ект (г. зн. як творца) ён мяне зусім не цікавіць. Але не магу ж я ну хоць бы не ўсміхнуцца яму пры сустрэчы, нават калі ён учора надрукаваў сваю чарговую цягамоціну і тым яшчэ больш дыскрэдытаваў нацыянальную літаратуру, мову, культуру. Літаратура — для вечнасці, а мы жывём і сёння і псаваць сабе жыццё не дамо. І таму Леанід Ільіч — чалавек прыемны ва ўсіх адносінах. Вось што важна. А не тое, што ён ні за што атрымаў Ленінскую прэмію па літаратуры. Прафесіяналізм і талент — рэчы суб'ектыўныя — улічваць не варта. Глядзіце на кожнага чалавека як на аб'ект.

Вось ужо пашчыравала крытыка над гэтай аб'ектывізацыяй! Дагэтуль сям-там патрабуюць аб'ектыўнасці ў выхалашчаных, дэіндывідуалізаваных сваіх «аб'ектыўных» артыкулах. А вынік гэтага такі. Цяпер у нашым алімпійскім ізалятары таленты ацэньваюцца толькі ў кулуарах, падкрэслена здзекліва ці па-зямляцку цёпла, але заўсёды, бадай, шчыра. Да агульнага ведама, праз крытыку, гэтыя ацэнкі не выстаўляюцца. І вось што маем. Маем абоймы. Напрыклад: Янішчыц, Бічэль-Загнетава, Баравікова, Коўтун, Мацяш, Тулупава, Бондар, Каржанеўская... Усе таленавітыя? Безумоўна. Але наколькі таленавітыя, які патэнцыяльны ўклад у літаратуру кожнай, — пра гэта ані...

Толькі знешняе апісанне аб'екта і абоймавая крытыка — рэчы зусім не бязвінныя. Яны нівелююць рэльеф літаратурнага працэсу, затушоўваюць яго структуру, змушаюць творцу адпавядаць абойме і таму іміджу, які для абоймы стварыла крытыка. Творца перастае верыць у сваю выключнасць, «разавасць» і абсалютную каштоўнасць. Ён ужо не творца, а толькі бутафорскі матэрыял для справаздач, для імітацыі росквіту нацыянальнай літаратуры. Ён ужо ў іншай сістэме вартасцяў, дзе на першым месцы дружба народаў і літаратур, знаёмства Івана Іванавіча з Рыгорам Васільевічам, спрыянне Барыса Мікалаевіча Пецю...

Сучасная манаполія адной творчай арганізацыі на ўсе выданні, генеральную лінію ў прыгожым пісьменстве і статус прафесійнага літаратара — сталінскае дзецішча сталінскага гарту. Так вамі зручней кіраваць, таварышы! Не дзіва, што ў кампаніі выяўлення «ворагаў народа», стварэння культу асобы, застою беларуская пісьменніцкая арганізацыя ўнесла важкую лепту. Нязгодных яна проста растаптала з дапамогай кампетэнтных органаў. Цяпер жа СП БССР сваю гісторыю выводзіць чамусьці ад тых нязгодных, а не ад уласных рэза-



**Ала СЯМЁНАВА**

# ТАЛЕНТ КРЫТЫКА— АСАБЛІВЫ...

1. Досыць дзіўнае пытанне. Для мяне, прынамсі. Бо лічу крытыку неад'емнай часткай літаратуры. Паўнамоцнай і паўнапраўнай. Жанрам літаратуры.

У якіх суадносінах яна з іншымі жанрамі і які яе ўзровень у параўнанні са станам крытыкі па-за межамі рэспублікі (па-за межамі краіны) — пра гэта можна весці гаворку. У прыватнасці, мне давялося прамаўляць пра тое ў артыкуле «Шчаслівы хлеб» («Нёман», 1989, № 4). Як мне здаецца, усе жанры беларускай літаратуры, у тым ліку і крытыка, існуюць сёння з відавочна выяўленай затармажанай рэакцыяй. Нават публіцыстыка. Ёсць асобныя «прарывы», але выснаваныя творы, на добрым мастацкім узроўні — гады ў рады. Наконт крытыкі — ёсць відавочныя смеласць і напор у адносінах да мінулага. Але надзвычай рэдкія выпадкі сур'ёзнай, патрабавальнай гаворкі пра сённяшняе.

Ці вышэйшы яе ўзровень за іншыя жанры? У асноўным крытыка паўтарае іх узровень. Ёсць вышыні, ёсць пагоркі, аднак пераважае панылая, шэрая роўнядзь.

2. Рывок? Толькі пры ўмове, што тыя, хто працуе ў органах друку, і тыя, што пішуць, вызваляцца ад стэрэатыпаў мыслення. І калі стасункі літаратурныя, творчыя не будуць атаясамлівацца з адносінамі чалавечымі. Бо менавіта сябар мае права і абавязак прамаўляць праўду.

Часцей за ўсё рывок бывае агульны, калі з'яўляецца канкурэнтаздольная на самых далёкакраявідных варунках проза і паэзія. Хаця здараецца, што крытыка нашмат вышэйшая за прозу і паэзію, як гэта было ў 70-я гады ў рускай літаратуры, а часам і ў нас.

Але ў нас, беларусаў, ёсць яшчэ і даўняя ахілесава хіба. І зусім не пята. Тое, пра што апошнім часам вядзецца няспынная гаворка. Каб беларуская мова стала мовай народа. Каб на ёй гаварылі не толькі члены Таварыства беларускай мовы, Саюза пісьменнікаў, Саюза мастакоў і выкладчыкі і студэнты гуманітарных ВНУ. Ёю павінны карыстацца слесары і навукоўцы, міністры і інжынеры, шаўцы і трактарысты. Каб з'явілася нармальная сфера ўжывання мовы. Каб быў чытач у чытача белетрыста і пісьменніка з элітарным ухілам, у эпіка і лірыка, у філосафа і парадыста, у фальклarыста і крытыка.

3. Такія выпадкі ёсць. Але



**Таіса ЧАБАН**

# «ТРЭЦЯЯ РЭАЛЬНАСЦЬ»

Каб разглядаць і ацэньваць узроўні сучаснай літаратуры і крытыкі, перш трэба выявіць, у якой сістэме каардынат яны знаходзяцца. Інакш кажучы — што такое крытыка ў адносінах да літаратуры? Пытанне, якое цягне за сабой мноства ўзаемных прэтэнзій, непаразуменняў, амбіцый з аднаго боку, комплексаў непаўнацэннасці — з другога... Якая задача крытыкі, у чым яе прызначэнне: прапагандаваць літаратуру? весці «селекцыйную» работу, адлучаючы «семена от плевел», ставячы «знак якасці» на літаратурнай прадукцыі? адкрываць новыя імёны і развенчваць аўтарытэты? раскрываць чытачу змест і эстэтычную вартасць мастацкага твора? паказваць пісьменніку яго творчыя ўдачы і хібы, скіроўваць на правільны шлях?

У нейкай ступені, добра ці блага, крытыка выконвае і гэтыя задачы, але, як кажуць, не давядзі бог, каб гэта стала яе галоўным прызначэннем. І не таму, што ўсё гэта — работы дапаможныя, падсобныя, скіраваныя на абслугу літаратуры ці чытача, у рэшце рэшт сервіс — справа прэстыжная, а калі мець на ўвазе сапраўднае служэнне (не прыслугоўванне) сапраўднай літаратуры — то і пачэсная. Але справа ў тым, што ў гэтым выпадку крытыка, як і наш «ненавязлівы сервіс», прыносіць «кліентам» мала карысці.

Узяць, напрыклад, прапаганду літаратуры. Так, мы пішам рэцэнзіі, артыкулы, выступаем з лекцыямі, але чытацкі попыт фарміруецца амаль без нашага ўдзелу. Як паказалі апытванні, толькі 6 працэнтаў чытачоў пра тое, «што пачытаць», раяцца з крытыкай, астатнія — з сябрамі, знаёмымі, суседзямі, з уласным густам і інтуіцыяй. Акрамя таго, у рэспубліцы за 70 год дзяржаўнасці сфарміравалася новая нацыя, якая называе сябе «русскоязычное население» і якая па-беларуску не чытае нічога.

А вось заманлівая перспектыва — «адкрыць» таленавітага пісьменніка! Перад вачамі паўстае вядомы з урокаў літаратуры эпізод: Бялінскі, прачытаўшы ў рукапісе першы раман тады яшчэ невядомага Дастаеўскага «Бедные люди», уражаны, едзе ўночы да маладога аўтара, будзіць яго, каб сказаць: «Вы — геній, вы — новы Гогаль!»

Але ж славуты крытык не толькі слёзы захаплення праліваў над раманам Дастаеўскага, але і дапамог надрукаваць яго ў «Отечественных записках», дзе думка Бялінскага была вырашальнай! Дзе сёння тыя «Запіскі», у якіх рашаючае слова было б за крытыкам?! А дзе тыя Бялінскія? — спытаеце вы, і будзеце мець рацыю, бо ўсё ўзаемазвязана. Так ці інакш, на фарміраванне рэдакцыйных і выдавецкіх планаў крытыка не мае амаль ніякага ўплыву. І таму маладыя таленты, не схільныя да сантыментаў, нясуць свае творы ў рэдакцыю ці да вядомых пісьменнікаў, якія маюць «вагу» ў рэдакцыях. І правільна робяць. Крытык сустракаецца з мастацкім творам, так сказаць, post factum, пасля надрукавання, і яго рэцэнзія — размахванне кулакамі пасля бойкі.

Што ж, тады застаецца звярнуцца да пісьменніка: быць яго... ну, калі не настаўнікам, то сябрам, дарадцам, які б разумеў творцу, ішоў з ім разам церневым шляхам, дапамагаў знайсці сябе, ашчаджаў ад нягод і творчых крызісаў... Бачу вашы ўсмешкі, у якіх столькі іроніі, сарказму, горычы... Астаф'еўскі «Зрячий посох», дзе ён з любоўю расказвае пра крытыка-сябра, крытыка-настаўніка Макарава,—прыемнае ў гэтым сэнсе выключэнне. Бо, сапраўды, рэдка была крытыка для пісьменніка «зрячим посохом», найчасцей— грознай дубінай... А потым ператварылася ў «палачку-выручалачку» ў кішэні масцітых і тытулаваных... А цяпер усё часцей становіцца «палачкай-выбівалачкай» у групавых, камандных гульнях...

Ды што гаварыць пра сучасную крытыку, калі нават у класікаў адносіны з пісьменнікамі складваліся не найлепшым чынам. Так ідылічна пачаліся яны ў Бялінскага з Дастаеўскім, а працяг быў далёка не ідылічны, і пра яго не расказваюць на ўроках літаратуры. Горача прымаючы Дастаеўскага як прадаўжальніка «натуральнай школы», Бялінскі не зразумеў і не прыняў яго далейшага шляху, яго «фантастычнага рэалізму», катэгарычна сцвярджаючы: «Фантастическое в наше время может иметь место только в домах умалишенных, а не в литературе». Ацэнка крытыкам наступных твораў Дастаеўскага — «Двойника», «Господина Прохарчина», «Хозяйки» і інш. — зніжаецца ад халодна-расчараванай («не то умничанье, не то претензии») да рэзка-негатыўнай («мерзости», «ерунда страшная»). А гэта ж быў шлях пісьменніка да «Преступления и наказания», да «Братьев Карамазовых»! І як добра, што ён «не паслухаўся» крытыка, не збочыў са свайго шляху, але чаго гэта яму каштавала!

Які ж вывад з усяго гэтага? Выходзіць, куды ні кінь — крытыка — справа бескарысная і непатрэбная?

Так, бескарысная і непатрэбная! У практычным сэнсе, у прыкладным значэнні, у прыстасаванні да нейкай канкрэт-

## Паэзія

**Таіса БОНДАР**



# ШУКАЮ Й НЕ ЗНАХОДЖУ Ў СЭРЦЫ БОГА...

●

Вечар. Ніці цяжкой пазалоты
Між акном і сцяною святла,
Што адбіткам не птушкі, палёта
Стала раптам і ўвысь пацякла.

Пацякла, далячыні адкрыўшы,
Не вядомыя нават душы:
Як ні ўслухвайся — ціша і ціша,
Як ні ўглядвайся — ззянне вышынь...

Быццам там, у глыбінях імгнення,
На вачах нараджаўся, ўзнікаў
Іншы свет — і маё захапленне
У сваім харастве замыкаў.

Я скаралася. Хоць адчувала:
Позірк згасне, згарэўшы датла
У глыбінях імгнення, у хвалях
Незямнога, цяжкога святла.

●

Шукаю й не знаходжу ў сэрцы Бога,
Хоць ён жа быў, ён немінуча быў!
І я не ўведала — і свет забыў
Яго трывогу, і яго дарогу.

І хоць дарогай гэтаю штодзень
Хто-небудзь валачэ свой крыж угору,
Мы ўслед яму паглядваем з дакорам:
Чаго, маўляў, так горасна брыдзе?

І крыж жа гэткі, як і ў нас, любога,
І век не карацейшы, чым у нас,
Склянаў свой час або ўхваляў
свой час —
Не ратаваў, не ўратаваў нікога.

Хай сёння — хтосьці іншы,
заўтра — ты...
Адна ва ўсіх — жалобная — дарога!
І не знайсці ў збалелым сэрцы Бога,
І не знайсці ў жалобе дабраты...

●

Хто гаворыць пра сілу
У час наш, бяссільны
Вырашаць, прымушаць
Пагаджацца з сабой?
Усачыць бы за шляхам!
То выструб ласіны
Здасца ў спешцы сігналам,
Прапетым трубой.

То труба, захлынуўшыся
Ўласнай трывогай,
Не разбудзіць —
Адно развярэдзіць душу.
Прыгадаецца: свет,
Пасмяяўшыся з Бога,

# «ПАД СЦЯГАМІ ПІМЕНА ЕМЯЛЬЯНАВІЧА...»

**Сёння, калі мы столькі гаворым пра галоснасць, пра ролю друку ў перабудове, пра грамадскую актыўнасць пісьменніка і журналіста, — мне здалося надзённым сказаць колькі слоў пра Пімена Панчанку як колішняга рэдактара... Як аднаго з тых рэдактараў, вопыт якога, здаецца, можна браць на ўзбраенне і сёння...**

**Пімен Емяльянавіч змяніў Аляксея Кулакоўскага, якога вызвалілі ад пасады галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць», што для ўсіх супрацоўнікаў было нечакана. Лёс А. Кулакоўскага вырашыла вострая і «крамольная» па тым часе аповесць «Дабрасельцы», якую рэдактар адважыўся надрукаваць у часопісе, які рэдагаваў. Аповесць з'явілася ў майскім нумары за 1958 год.**

**Супрацоўнікі шкадавалі Аляксея Мікалаевіча, але новы галоўны не расчараваў нас. У Пімена Емяльянавіча, якога дагэтуль я ведаў толькі здалёк, нам кінулася ў вочы надзіва адметная якасць арганізатара, якую можна было б назваць адным словам — чалавекалюбства. Ужо на першых планёрках мы адчулі, што гэта — смелы, ваяўнічы кіраўнік, які мае сваю неардынарную думку, прынцыповасць пазіцыі і гатовы сам ісці ў атаку за яе з разгорнутым сцягам.**

**З'явіліся новыя прапановы, новыя тэмы, новыя рубрыкі.**

**Тады ж зацвердзілі рубрыку — «Дарогамі пяцігодкі», і галоўны рэдактар прапанаваў: «Няхай кожны супрацоўнік напіша артыкул ці нарыс». Сам ён паехаў у Наваполацк і напісаў нататкі з будоўлі полацкага нафтагіганта.**

**Пімен Панчанка, як рэдактар, кіраўнік рэдакцыйнага калектыву, быў уважлівы і роўны да кожнага, асабліва да маладых і пачынаючых, шчыра рупіўся пра выхаванне маладой змены. Вакол «Маладосці», як пад крылом чулага, спагадлівага бацькі, гуртаваліся маладыя паэты і празаікі. Першыя творчыя камандзіроўкі атрымалі ад «Маладосці» Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Галіна Каржанеўская, Уладзімір Караткевіч, Іван Ласкоў, Вера Вярба, Еўдакія Лось і многія, каго я тут не назваў, але хто назаўсёды зберог у памяці зычлівыя, цёплыя сустрэчы з такім пісьменнікам і чалавекам, як Пімен Панчанка. А Пімен Панчанка сам чытаў рукапісы і не толькі вершы, але і прозу, і нарысы, і артыкулы, і першы радаваўся і аб'яўляў усім, калі з'яўлялася сапраўды новае, таленавітае імя.**

**Пры Пімене Панчанку-рэдактару (не хачу сказаць, што тыя, хто ад яго браў эстафету кіраўніцтва «Маладосцю», былі не ініцыятыўныя) працавалася ўсім у ахвоту і без асаблівага рэдактарскага, кіраўнічага панукання. Гэта маглі пацвердзіць і самыя першыя супрацоўнікі — Алесь Асіпенка, Уладзімір Юрэвіч, Мікола Аўрамчык, і маладзейшыя — Васіль Зуёнак, Вячаслаў Адамчык, Алесь Жук, Пятрусь Макаль. Усе яны памятаюць, якой была «Маладосць», як расла і сталела яна, напаўняючыся надзённымі тэмамі.**

**Пімен Панчанка — галоўны рэдактар — не проста ўмеў патрабаваць. Ён умеў слухаць тое, што прапаноўвалі, і сам падаваў ідэі і, галоўнае, дапамагаў лепш іх ажыццявіць.**

**Помніцца, вярнуўся П. Панчанка з адной высокай нарады і адразу сам зайшоў у аддзел публіцыстыкі.**

**— Вось, хлопцы, — спакойна і даверліва сказаў ён, — я тут накідаў тэмы, якія, думаю, нам прыгадзяцца. Прадумайце, якія з іх нам важней заказаць неадкладна...**

**Вядома, мы з Уладзіславам Нядзведскім узяліся за іх ажыццяўленне. Тады менавіта Уладзіслаў Нядзведскі і напісаў свой «Салігорскі рэпартаж». І Рыгор Барадулін паехаў на Палессе. А пазней Уладзімір Караткевіч і Валянцін Ждановіч — на Піншчыну, Вячаслаў Адамчык — на Гродзеншчыну, Ніл Гілевіч — на Брэстчыну, Таіса Бондар — на Гродзеншчыну.**

**Тая паперка, дзе занатаваны развагі П. Панчанкі, у мяне захавалася. Яе я перачытаў. Скажу, што многае з таго, што там пазначана, — не ўстарэла. Гэта сведчанне таго, як уважліва ставіўся Пімен Панчанка да рэдакцыйных спраў, якія яму былі блізкія і якія ён спалучаў з работай «на сябе». Вершы, што ў час маладосцеўскай пары выходзілі з-пад яго пяра, былі заўсёды з'явай. Мы ўсе зачытваліся імі.**

**Усе, мабыць, без выключэння, шкадавалі, калі Пімен Панчанка вырашыў пайсці з рэдакцыі. Праўда, перадаўшы пасаду галоўнага рэдактара Алесю Асіпенку, Пімен Панчанка застаўся членам рэдкалегіі часопіса. Ён ніколі не прапускаў ніводнага рэдактарскага пасяджэння і праяўляў сапраўдныя, я сказаў бы, бацькоўскія клопаты аб часопісе. Яго заўвагі і канкрэтныя, заўсёды вартыя ўвагі выступленні па матэрыялах, якія рыхтаваліся ў друк, па афармленні часопіса былі нашымі ўрокамі. Урокамі рэдактарскага майстэрства. Так было і пасля, калі ў рэдакцыю прыйшоў на пасаду галоўнага рэдактара Генадзь Бураўкін, наш былы актыўны аўтар, і ў той час, калі галоўным рэдактарам стаў Васіль Зуёнак...**

**Нягледзячы на ўзрост і занятасць, і цяпер Пімен Панчанка не проста жаданы госць, а старэйшы супрацоўнік, да голасу якога прыслухоўваюцца маладосцеўцы. Яны ганарацца тым, што працуюць, як трапна сказаў У. Нядзведскі, якога па-бацькоўску любіў народны паэт, «пад сцягамі Пімена Емяльянавіча...»**

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

## Чытаючы часопісы

# «Я СЫН ЧОРНАЙ ГРАМАДЫ...»

**Вернуты да жыцця яшчэ адзін твор беларускай літаратуры, ці не самы загадкавы ў ёй. Часопіс «Полымя» змясціў у сёмым нумары аповесць Максіма Гарэцкага «Дзве душы», з часу першай публікацыі якой мінулася роўна семдзесят гадоў.**

УЛАСНА кажучы ў нечым «загадкавай» яе ўсё ж зрабілі перастрахоўшчыкі ад літаратуры, хто, як чорт ладану, баіцца праўды. Праўда ж гэтая ў «Дзвюх душах» не абы-якая, а з нацыянальнай «падсветкай». Персанажы твора хто ў меншай ступені, а хто ў большай — задумваюцца, як у гэтых віхурных рэвалюцыйных падзеях зрабіць крок да нацыянальнага самавызначэння, адрадзіць свае духоўныя пачаткі.

Ці не найбольш востра гэтая дылема — быць ці не быць беларусам — паўстала перад «прапаршчыкам армейскім» Ігнасём Абдзіраловічам. Яшчэ колькі тыдняў назад над гэтым ён і не задумваўся. І раптам — быццам нейкі пераварот у свядомасці яго адбыўся. Усё звыклае, ранейшае, а значыць, і ўсталяванае, загадзя ўзважанае і прадуманае адышло, замест яго з'явілася нейкая няўпэўненасць у самім сабе, незразумеласць, як быць далей, што рабіць, каб не ператварыцца ў звычайную трэску на хвалях бурлівай рэвалюцыйнай ракі. Як бы тое ўзнікла, што Аляксей Мікалаевіч Талстой пазней назаве «блуканнем па пакутах». Ды пакуты Абдзіраловіча куды больш моцныя, чым талстоўскіх герояў. Перад тымі па сутнасці стаяла пытанне — прымаць ці не прымаць рэвалюцыю. Для Абдзіраловіча мала прыняць саму рэвалюцыю, як небывалы дасюль сацыяльны зрух у жыцці грамадства. Для яго пытанне стаіць куды вастрэй, складаней.

«Сярод сумнай імглы восені на нядрогкіх калёсах» думае герой М. Гарэцкага свае нялёгкія думы. Яны ж, як і гэтая восень, у чымсьці змрочныя, але чым больш разважае Абдзіраловіч самнасам, тым болей да яго прыходзіць усведамленне, што неабходна нешта рабіць, каб выбрацца, выкараскацца з гэтага тлуму безвыходнасці, нацыянальнай непрыкаянасці: «Да універсітэта гаварыў найбольш па-беларуску. І думаў па-беларуску. Не: школа навучыла думаць па-руску. Ці ж праўда?» Цяпер жа «ён нават не можа адчуць усяе глыбі гора і няшчасця гэтай старонкі, што цяпер усцяж укрыта акопамі, крыжамі і могілкамі. Не можа...»

Значыць, не так пражыта жыццё... Значыць, многае страчана незваротна, і каб вярнуць хоць часцінку гэтых страт, трэба пераходзіць да дзеяння: «Буду рабіць! Буду рабіць! — грукаталі калёсы з невялічкай горкі і разганялі дрымоту сярод сумнай імглы восені, што патроху робіцца святлейшай і весялейшай».

Ды лёгка сказаць: нешта трэба рабіць. Але што рабіць, як рабіць, Абдзіраловіч пакуль што не ведае: «І душа двоіцца. Дзве душы. Тая, што плакала і жалілася на другую, нашто яна мучыць яе падманкамі, цяпер цвярдзее, але робіцца нядобраю, набірае ўсё болей нейкай калянасці і нават жорсткасці». Можа, плачацца душы Абдзіраловіча ад таго, што адвярнулася ад яго прыгожая паненка Аля Макасеева — «белы тварык з чорнымі бліскучымі вачмі і курчавымі пасмачкамі»? Мо прыгадалася яму колішняе, яшчэ юнацкае каханне, дачка ляснічага Іра Сакавічанка, якая «сеяла беларускую свядомасць сярод сялян і сялянскай інтэлігенцыі»?

Не без гэтага, як кажуць. Але двоістасць душы Абдзіраловіча сентыментальнасцю і меладраматызмам не растлумачыш. Калі б усё было так, значна прасцей зніклі б усе супярэчнасці, што абрынуліся неўспадзеўкі на колішняга студэнта, «апрашчоніка і нарадавольца». Уся бяда ў тым, што людзі, падобныя Абдзіраловічу, імкнучыся да новага, прывабнага для іх жыцця, не заўважаюць, як страчваюць нацыянальную глебу пад нагамі, становяцца тымі «перакаці-поле», што гатовы ў любую хвіліну прымкнуць да любога месца, толькі б лепш, цяплей і ўтульней ім пачувалася. Невыпадкова Ігнась ловіць сябе на думцы, што «хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недаверанасцю думаў аб руху адраджэння, аб якім некалі чуў краем вуха».

Ёсць у аповесці і яшчэ адзін момант, які, здавалася б, у нечым уплывае на двоістасць паводзін яе галоўнага героя. Сталася так, што жонку старога пана Абдзіраловіча забілі, калі сыну споўнілася толькі тры месяцы. Якраз у гэты час у сялянкі Маланні выхоўваўся сын прыкладна такога ж узросту. Жанчына, дбаючы аб лепшай долі для свайго дзіцяці, пайшла на падман. Ігнасём Абдзіраловічам стаў яе ўласны сын Васіль. Сапраўды ж Ігнасік «ператварыўся»... у Васілька.

Адкрыццё гэтае ў значнай ступені актывізуе волю Абдзіраловіча: «Я з-за непаразумення трапіў у панскія сыны, я сын гэтай чорнай грамады і хацеў бы павесці яе ляпей за ўсіх да шчасця».

Максім Гарэцкі не прыспешвае працэс сацыяльнага перавыхавання Ігнася Абдзіраловіча. Гэтаксама ён далёкі ад думкі, каб паскараць рост нацыянальнай самасвядомасці героя. Абдзіраловіч — дзіця свайго часу, супярэчлівага, складанага. Аднак гэты час тым і цікавы, што ён — рана ці позна — перад кожным чалавекам паставіць мяжу, пераступіўшы якую лёгка зваліцца ў бездань чагосьці чужароднага, страціць сваю нацыянальную адметнасць.

Ці адчувае такую небяспеку Ігнась Абдзіраловіч? Па ўсім відаць, так. Як бы падсвядома ён пачынае ўжо пратэставаць супраць адмаўлення беларускаму народу ў праве народам звацца. Характэрны ў гэтых адносінах

Быў упэўнены: зло —
Гэта проста каршук.

Лепш прыцэліцца і...
Мы ўсё цэлімся ў неба,
Бы не можам,
Не хочам і тут зразумець:
Бог — у кожным з нас,
Зло — ў кожным з нас,
І ў хвалебным
Пераліку магчымасцей
Тоіцца смерць.

Дні, гады ці стагоддзі...
Вузламі тугімі
Шлях іх звязвае
З тонкаю ніццю жыцця.
Лепш прыцэліцца...
Цэлімся ў неба. І гінем
За паўкроку
Ад зробленага адкрыцця.

●

Зрэдку бачым прарочыя сны,
Зрэдку цешымся купленым раем,
Потым плачам і слёзы збіраем,
Каб было чым дажыць да вясны.

Каб дажыць... Але дзе ён, той край,
За якім абрываецца сцежка,
Не падкажуць ні слёзы, ні ўсмешка:
Хочаш-не, а жыві і чакай.

І чакаем. І ведаем: нам
Напрарочана снамі так многа,
Што адступіцца ўрэшце трывога,
І не ёй мы паверым, а снам.

Снам, такім жа, як мы, маладым —
І цяпер, і пасля, і да скону...
Не ў люстэрка глядзімся, ў ікону,
За якую хаваем гады.

●

Таямніца быцця, таямніца любові...
Колькі яркіх,
высокіх усплёскаў святла,
Што ні ў сэрцы збалелым,
ні ў выстылым слове,
І згасаючы, не дагараюць датла.

Не згараюць... І мучыць,
гняце таямніца:
Сэрца чуе гады — слова чуе вякі,
І то сэрца,
то слова спяшае ўсумніцца:
Шлях у вечнасць ніколі не бег
нацянькі.

Шлях... І вечнасць за ім...
Як заўжды, непазбежна,
Азірнешся — і агубіш кірунак, і шлях.
Пагукаеш былое — і ўспыхне бязмежжа
На знямелых губах,
На здранцвелых руках.

●

Нас вабіць час — нас забівае час...
Мы ж цешымся спадзеўкамі на вечнасць
У свеце, дзе любая недарэчнасць,
Разросшыся, засведчыць супраць нас.

Якія, к чорту, мы гаспадары
Хоць гэтага, хоць прывіднага свету?
Жывём — не ўмеем аддарыць за гэта,
Памром — каму й навошта ўсе дары?

Каму? Навошта? Перастрэне смерць —
І рукі не ўтрымаюць нават пёрка:
Перш ціха згасне позірк, потым зорка—
І ўжо не спалучыць іх, не паспець...

Нас вабіць час, нас забівае час,
На свой рахунак запісаўшы страту,
А вечнасць ці нябыт пазначаць дату,
Хто ведае, хто можа даць адказ?

выпадак, які адбываецца ў Пяцігорску, дзе Ігнась адпачывае пасля цяжкага ранення. Князь Гальшанскі пасвойму «дбае» пра беларускі народ. Сабраўшы беларусаў — бежанцаў, гэты «руплівец», які неўзабаве апынецца ў белагвардзейскім стане, так выяўляе сваю «рэвалюцыйную» платформу: **«У нас, белорусов, нет классовой борьбы!.. Нет ее, не должно быть и не будет!!!»** (выдзелена аўтарам аповесці.—**А. М.**).

«Аніхто з прысутных, ахвяруючы ў імя бацькаўшчыны, не пярэчыў яму, калі быў і не згодны...» Ды і, уласна кажучы, не так і лёгка было запярэчыць забітым сялянам, адарваным ад родных месц, «панскае пароды гвардзейскаму афіцэру». Запярэчыў Гальшанскаму не хто-небудзь, а Ігнась Абдзіраловіч, той самы Абдзіраловіч, які зусім нядаўна далей летуценняў «аб працы ў вольнай старонцы» не ішоў.

Быццам прарвала яго: «Вашых бацькоў паны забівалі бізунамі, і мянялі на заморскіх сучак, і прадавалі, як быдла... Вашых матак гвалтавалі панічы...З вас самых высмактвалі кроў. За бярозавую хлабасцінку з панскага лесу вас гнаілі ў турмах... І цяпер вам кажуць: у вас няма змагання класаў перад агульным ворагам... О, не! Яно ёсць!.. Яно ёсць, гэтае змаганне, яно павінна быць! Хто яго не прызнае, той не ведае холаду, голаду, а вы, вы...» Думаецца, невыпадкова ў гэтай «страснай шчырасці» Ігнася Абдзіраловіча гучыць не «нашых бацькоў», а «вашых бацькоў», не «нашых матак», а «вашых матак», не «з нас самых», а з «вас самых»... І не толькі таму, што герой пакуль што не ведае пра сваё сапраўднае сацыяльнае паходжанне. Прычына хутчэй за ўсё ў іншым. Абдзіраловіч і тыя, у абарону каго ён выступае, яшчэ па сутнасці знаходзяцца па розныя бакі барыкад. У гэтым выступленні на мітынгу — звычайны душэўны парыў чалавека, які прывык да праўды, сумленнасці і не можа змірыцца з хлуснёй, двурушнасцю. Аднак ад палітыкі, заўважаеш, Абдзіраловіч стаіць яшчэ вельмі далёка,ён так і не рашыў, з кім ісці.

У аповесці сам працэс выспявання рэвалюцыйных зрухаў у псіхалогіі людзей, прадстаўнікоў розных сацыяльных груп, падаецца псіхалагічна праўдзіва і непаспешліва. Больш таго, М. Гарэцкі, як ні адзін з яго сучаснікаў, меў грамадзянскую і пісьменніцкую мужнасць сказаць тую праўду аб рэвалюцыі, выказваць якую ў той час проста пабойваліся. У «Дзвюх душах» асноўная ўвага засяроджана не на ачышчальнай, жыватворнай сіле рэвалюцыйных працэсаў, а на той пене яе, якая нязменна з'яўляецца там, дзе ў жыцці грамадства наступаюць глабальныя перамены.

Якраз гэтая акалічнасць у многім і прадвызначыла лёс твора, надоўга схаваўшы яго ў «спецхраны». Відаць, сёйтой убачыў «небяспеку» ў ачарненні вобраза большавіка. Сапраўды, М. Гарэцкі фарбаў не пашкадаваў, пішучы свайго Гаршчка. Нават асобныя дакументальныя публікацыі, якія дружна запоўнілі ледзь не ўсе перыядычныя выданні краіны і асобныя ахвотна передрукоўваюцца рэспубліканскімі газетамі, блякнуць, калі знаёмішся з Іванам Карпавічам Гаршчком. Такія і калектывізацыю паскаралі, і «ворагаў народа» знаходзілі, а каму пашчасціла выжыць, застойныя працэсы рыхтавалі. Самае ж страшнае, што сваёй штодзённай дзейнасцю, якая куды страшней за бяздзейнасць, яны падрывалі веру ў саму рэвалюцыю, у сацыялізм, жорсткасцю, ідэйнай тупасцю, азвярэлым фанатызмам настройвалі сумленных людзей супраць партыі.

Хто ж ён, Іван Карпавіч Гаршчок? Карпавіч, як яго ўсе называюць, «грошы краў, цела брудзіў, а сумленне гарэлкаю заліваў». Перад гэтым, канешне, з роднай вёскай парваў, з беларускасцю назаўсёды развітаўся. Адсідка ў турме для гэтага нядачніка не прайшла бясследна. Гаршчок захапіўся... нелегальнай літаратурай. Хутка стаў «самым ярым ісцінарускім патрыётам, потым пад уплывам сваіх знаёмых студэнтаў — свядомых беларусаў — дужа скора асцюдзянеў», «перамахнуў... аж да бальшавіцкага лагера». Стаўшы «ідэйна-падкаваным», пераўтварыўшыся ў Карпавіча, ён усё ж усведамляе, што «ў абы-якой партыі мог бы знаходзіцца з поўнай шчырасцю».

Акарыкатурванне персанажа? Пішучы «свайго» Карпавіча, М. Гарэцкі са здзіўляючай празорлівасцю ўгледаўся ў тую «рознамасную» масу, якую абудзіла рэвалюцыя, як бы папярэджваў да чаго можна дайсці, прытрымліваючыся нават самых светлых задум і мэтаў, калі важную справу рэвалюцыйнага пераўтварэння свету даручыць гэткім «карпавічам» з іх люмпенскай псіхалогіяй. Яны «нейкім дзівам сумяшчаюць у душы сваёй найлепшы, здаецца, гуманізм і найгоршае, акажацца, чалавеканялюбства, хімію і алхімію, марксізм і хірамантыю і з аднолькавай шчырасцю веруюць у тое і другое». Бяда ў тым, што чым далей ішла рэвалюцыя, тым болей і часцей на яе шляху сустракалася гэткіх прымазанікаў, у якіх, калі разабрацца, ніколі нічога святога за душой і не было, а толькі прысутнічала нейкая ідэя, узведзеная ў абсалют, не падмацаваная разуменнем канкрэтных сітуацый...

З непрыхаванай трывогай расказвае Васіль, сапраўдны сын старога Абдзіраловіча, які выхоўваўся ў сялянскім асяроддзі, а цяпер — пралетарый, партыец, як у адным сяле «ўсе маладыя йшлі раней у свет, у гарады, а цяпер паварочаліся дамоў гультаямі, бандытамі і пад штандарам бальшавізму здзекуюцца над усімі сялянамі. Жывуць паразітамі, паўлезлі ў камітэт беднаты...» Такія, зразумела, за лозунг Карпавіча ўхопяцца абедзвюма рукамі: «Сячы трэба да карэння!»

Даведваецца пра ўсё гэта Ігнась Абдзіраловіч, і яго душа яшчэ больш пачынае дваіцца. Перажытае аднойчы, калі толькі ўпершыню па-сапраўднаму акунуўся ў вір рэвалюцыйных падзей, ніяк не дае пэўнасці. Усё ж тое раздарожжа, пакутлівыя ростані: «І адна палова яго, каторая разумела белых, маўчала, знямела». Але ж «і другая палова яго, каторая разумела чырвоных», таксама ў нейкім непрыкаянні. І зразумець многае ніяк не можа.

Якім бы ні быў Абдзіраловіч, як бы ні сумняваўся ён у падзеях, што адбываюцца, шукаючы ў іх сваю адзіную дарогу, пазбаўляючыся раздвоенасці душы, ён ні ў якім разе не належыць да людзей, што глядзяць на само жыццё ў нейкай адной фарбе. Пры ўсіх сваіх ваганнях, хістаннях, ён паступова пачынае разумець дыялектыку рэвалюцыі. І ў гэтым яго перавага перад іншымі двурушнымі інтэлігентамі, якіх так шмат было ў рэвалюцыйныя і паслярэвалюцыйныя гады. Яшчэ большая заслуга Абдзіраловіча, што ён пакрысе набліжаецца да разумення ўсёй значнасці і складанасці вырашэння нацыянальнага пытання на тагачасным этапе. Падыходзіць да таго, аб чым раней не задумваўся і што ўспрымаў залішне прамалінейна: «Бацькаўшчына — матка Беларусь?.. Але мая бацькаўшчына — уся Расія». Цяпер ён гэтак ужо не скажа.

Вочы Ігнасю адкрываюць не Карпавіч з яго псеўдарэвалюцыйнасцю, і не Васіль, які, як і многія яго аднадумцы, памылкова лічыць, што пры паспяховым вырашэнні сацыяльнага пытання само сабой будзе вырашана і пытанне нацыянальнае. Задумацца па-сапраўднаму над лёсам бацькаўшчыны дапамагаюць «прапаршчыку армейскаму» Мікола Канцавы, Ірына Сакавічанка, Сухавей. У самым пачатку твора Абдзіраловіч быў гэткі ж, як і іншыя беларускія інтэлігенты, што пазбавіліся родных каранёў: «...Быў сам несвядомы і хоць горача любіў бацькаўшчыну, але з якоюсь недаверкасцю думаў аб руху адраджэння, аб якім некалі чуў краем вуха». Паблукаўшы ж па душэўных пакутах, хоць далёка не ўсё зразумеўшы, ён ужо прызнаецца: «Я, бачыце, як беларус, патроху знаходжу сябе ў беларускай нацыянальнай і сацыяльнай свядомасці».

І Мікола Канцавы, і Ірына Сакавічанка, і Сухавей, як кажуць, дзеці свайго часу. Менавіта не забываючы аб гэтым, неабходна падыходзіць да разумення складанасці іх характараў, празмернага максімалізму. Але гэта такі максімалізм, што ўзнік не на голым месцы, яму таксама рыхтавала глебу сама рэчаіснасць.

Дваіцца, ой як дваіцца душа Ігнася Абдзіраловіча. Здаецца, вось-вось гатовы ён знайсці сябе на паўстанках гісторыі, ды зрабіць гэта яму па-ранейшаму цяжка. У той самы момант, калі многае ўжо зразумеў, даведваецца ад капітана Гарэшкі, як у «чразвычайцы» Гаршчок і яму падобныя здзекаваліся з манахаў. Чуе яшчэ адну, не менш жудасную гісторыю — пакаранне рэвалюцыйнымі кранштацкімі матросамі брата Гарэшкі. Нават сам Гарэшка, які заслужыў Гаршчкову «ласку цэлымі цэбрамі густой, запечанай, чорнай крыві паўстанцаў», не вытрымлівае, забівае Карпавіча.

«Сорам і прыкрасць» адчувае Ігнась, знаёмячыся ў газеце з некралогам, «бо шмат напісалі там красамоўнае лухты і проста маны пра камуністычную дзяяльнасць нябожчыка». Калі ж чуе гукі пахавальнага марша, яны «ўсё дужэлі і бальней хапалі за душу засмучона-паважным, накановaным». На гэтым у аповесці пастаўлена апошняя кропка.

Максімам Гарэцкім пастаўлена. Нам жа яе ставіць ранавата. І таму, што як і ў кожным сапраўдным творы, у «Дзвюх душах» многае як бы не дагаворваецца, і нанава пераасэнсоўваць твор — значыць, яшчэ глыбей спасцігаць сутнасць мастакоўскай задумы, раскрываючы ўсю значнасць вобразаў. Гэтая апошняя кропка не ставіцца яшчэ і па той прычыне, што аповесць быццам спецыяльна напісана для **нашага сённяшняга дня.** Яна ў многім і пра тое, што якраз цяпер выходзіць на першы план, набывае першаступеннае значэнне.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*Ліст у рэдакцыю*

# ВОПЫТ СУСЕДЗЯЎ

**Сёлета на пачатку ліпеня на Украіне адбылася навуковая канферэнцыя «Развіццё нацыянальных моў і пытанне двухмоўя». Пра гэта паведамлялася ў «Літаратурнай Украіне» ад 6 ліпеня 1989 г. Канферэнцыя была арганізавана Таварыствам украінскай мовы імя Т. Шаўчэнкі. Адкрываючы яе, старшыня ТУМ Д. Паўлычка адзначыў, што сярод прычын, якія спрычыніліся да ненармальнага становішча ўкраінскай мовы ў рэспубліцы, не апошняе месца займае тэорыя дзвюх родных моў, спароджаная «двух'языкаю» сталінскаю філалогіяй, трансфармаваная зараз у так званае гарманічнае нацыянальна-рускае двухмоўе. Мова каріннага насельніцтва рэспублікі на ягонай спаконвечнай тэрыторыі павінна стаць дзяржаўнай, галоўнай, забяспечыўшы развіццё нацыянальна-аднамоўнае культуры. Разам з тым прадстаўнікі кожнай нацыі могуць валодаць некалькімі мовамі. Такія імкненні ўсяляк варта падтрымліваць, у тым ліку ў дачыненні да рускай, польскай і іншых моў.**

**На канферэнцыі ТУМ выступіла звыш 50 удзельнікаў — філолагі, філосафы, правазнаўцы, гісторыкі, літаратары, настаўнікі, інжынеры і студэнты. Канферэнцыя прыняла наступную рэзалюцыю. Падаю ў перакладзе яе асноўныя палажэнні.**

**«1. Канцэпцыя нацыянальна-рускага двухмоўя (гарманічнае двухмоўе) з'яўляецца навукова неабгрунтаванай і палітычна шкоднай. Яе прымусовая рэалізацыя ва ўмовах Украіны спрычыняецца да практыкі рускай аднамоўнасці і дэнацыяналізацыі ўкраінскага народа.**

**2. Зацвярджэнне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў нашай рэспубліцы вымагае надання ўкраінскай мове статуса дзяржаўнай мовы Украінскай ССР.**

**3. У УССР на дзяржаўным узроўні неабходна ўвесці сістэму арганізацыйна-прававых ды фінансава-эканамічных захадаў, накіраваных на дзейснае ўвядзенне ўкраінскай мовы як дзяржаўнай ва ўсе галіны дзяржаўнага і палітычнага жыцця».**

**На маю думку, і ТБМ імя Ф. Скарыны варта падумаць аб арганізацыі і правядзенні ў бліжэйшы час канферэнцыі, прысвечанай праблеме беларуска-рускага білінгвізму.**

**А. ЛЯГУЦКІ,**
**сябра ТБМ імя Ф. Скарыны.**
г. Асіповічы.

## Музыка

# ПЛАНЫ, СПРАВЫ, НАДЗЕІ

**Наш карэспандэнт гутарыць са старшынёй праўлення Музычнага таварыства БССР Міхасём ДРЫНЕЎСКІМ**

**— Міхась Паўлавіч, апошнім часам у асяроддзі музыкантаў, ды і не толькі музыкантаў, я чую такія размовы. Вось, маўляў, стварылі яшчэ адно таварыства, сабралі апарат, падавалі ладныя аклады, а спраў нешта не відаць. Шчыра кажучы, я і сама ведаю мала пра вынікі двухгадовай дзейнасці МТ БССР. (Праўда, ведаю, што старшыня праўлення працуе бясплатна, але праца на грамадскіх асновах не замінае ягонай дасведчанасці ў праблемах арганізацыі). Толькі зусім нядаўна рэдактарскі аддзел МТ пачаў інфармаваць праз «ЛіМ» пра справы таварыства. Напрыклад, пра стварэнне Асацыяцыі майстроў музычных інструментаў была досыць разгорнутая карэспандэнцыя...**

— Вось бачыце — рэальны доказ таго, што таварыства існуе не на паперы...

**— Але я прапаную перадусім пагаварыць пра самае, на маю думку, набалелае — пра стан музычнага выхавання ў рэспубліцы, на што новае таварыства, пэўна, павінна звяртаць увагу ў першую чаргу. Летась прайшоў і пленум МТ па гэтых праблемах — я была сярод удзельнікаў, потым дзялілася сваімі ўражаннямі і меркаваннямі з чытачамі, таму не буду паўтараць ужо аднойчы надрукаванае. Можа, вы, Міхась Паўлавіч, раскажаце, ці адчуваецца водгулле тых пленумаўскіх спрэчак і высноў у рэальным жыцці?**

— Вядома, адчуваецца. Увесь гэты год таварыства трымае пад пільнай увагай праблемы музычнай адукацыі і выхавання дзяцей. Няма патрэбы доўга тлумачыць, якія гэта важныя прынцыповыя праблемы. Вырашэнне іх, вядома, не ў тым, каб далучыць дзяцей да тых ці іншых музычных інструментаў. Тут важна ўплываць на больш глыбінныя працэсы —фарміраванне духоўнай культуры, маральнае выхаванне маладога пакалення. Вы ўжо ў «ЛіМе» пісалі пра пленум МТ, прысвечаны мастацкаму выхаванню і музычнай адукацыі дзяцей, моладзі. Пасля таго пры праўленні МТ была створана камісія па музычнай адукацыі і выхаванні падрастаючага пакалення (яе старшыня — прарэктар БДК В. Яканюк). Задача камісіі — каардынаваць намаганні ўсіх арганізацый, зацікаўленых адпаведнымі праблемамі, таму ў яе складзе настаўнікі агульнаадукацыйных школ, выкладчыкі ДМШ, спецыяльных музычных навучальных устаноў, работнікі сродкаў масавай інфармацыі, кампазітары. Ужо вызначаны напрамкі працы камісіі. Тут і арганізацыя дзіцячых святаў усесаюзнага ўзроўню «Музычная пралеска», і музычна-прапагандысцкая работа ў дзіцячых дамах, школах-інтэрнатах, і арганізацыя кансультацыйных пунктаў па музычным выхаванні і правядзенне музычных педсаветаў, і сацыялагічныя даследаванні, і г. д.

**— На тым самым пленуме была вострая гаворка пра кепскае ўзаемадзеянне агульнаадукацыйных і дзіцячых музычных школ, паміж якімі, амаль без выключэнняў, існуе антыпедагагічная канфрантацыя...**

— Бо яны адно аднаму не хочуць пайсці насустрач! Дык вось, мы звярнуліся ў Міністэрства народнай адукацыі з просьбай вырашыць немалаважнае пытанне: залічваць у якасці абавязковай грамадска-карыснай працы заняткі дзяцей у ДМШ, у школах мастацтваў. Мы атрымалі здавальняючы адказ, і новымі вучэбнымі планамі школ гэта адлюстроўваецца. Увогуле ж, калі б паміж ведамасна раз'яднанымі ДМШ і агульнаадукацыйнымі школамі наладзіліся шматпланавыя сувязі, гэта магло б рэальна актывізаваць музычнае жыццё дзяцей.

**— А ці не здаецца вам, Міхась Паўлавіч, што лепш чым нарошчваць патэнцыял ДМШ, павялічваць іх колькасць, скіраваць бы новыя намаганні і сродкі на патэнцыял музычнай адукацыі і выхавання ў агульнаадукацыйных школах і ПТВ — «музычны лікбез» проста неабходны для кожнага цывілізаванага чалавека! Музычныя школы маглі б існаваць у меншай колькасці і не для ўсіх запар, як цяпер, а толькі для сапраўды дараўітых дзяцей, чые музычныя здольнасці можна развіваць нават з арыентацыяй на будучую музыканцкую прафесію. Я ведаю, сёння ёсць перакананыя і кампетэнтныя прыхільнікі менавіта гэткай канцэпцыі...**

— Музычны ўсенавуч пакуль што, на жаль, толькі мара, справа не бліжэйшага часу. Таму мы павінны дбаць найперш пра тое, што можна рэальна зрабіць зараз жа. Летась у Гродне («ЛіМ» таксама пра гэта пісаў) мы правялі музычны педсавет на тэму: «Музычна-эстэтычнае выхаванне дзяцей у агульнаадукацыйных школах: вопыт, праблемы, шляхі ўдасканалення». Гэта была першая і, зазначу, плённая спроба новай формы арганізацыйна-метадычнай нарады, прызначэнне якой — на ўзроўні аднной вобласці разгледзець праблемы музычна-эстэтычнага выхавання. Удзельнікі педсавета (а сярод іх былі і прадстаўнікі саюзных рэспублік, Цэнтральнага праўлення Усесаюзнага музычнага таварыства) зрабілі выснову: школа не можа выканаць місію музычнага ўсенавуча ва ўмовах аднаго на тыдзень урока музыкі. І з новага навучальнага года на Гродзеншчыне вырашана ўвесці ўжо дзве гадзіны такіх заняткаў з 1 па 4 класы, а ў якасці эксперыменту прадоўжыць урокі музыкі ў некалькіх школах да сёмага класа. Мала таго, Гродзенскае абласное аддзяленне МТ, дзе старшынёй В. Місцюк, прапануе вывучыць магчымасці школ абласнога цэнтра і там, дзе ёсць грунтоўныя ўмовы, развіць праграму урокаў музыкі аж да дзесятага класа, па дзве гадзіны на тыдзень.

Таварыства значную ўвагу надае і шэфству музыкантаў над дзіцячымі дамамі, школамі-інтэрнатамі, а таксама дабрачыннай дзейнасці: напрыклад, на Віцебшчыне і на Магілёўшчыне прайшлі дабрачынныя канцэрты на карысць дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў.

**— На гэтай ніве МТ можа зрабіць нямала і атрымаць неблагія вынікі. А вось ці можна хоць што-небудзь зрабіць для тых, хто ўжо «самавызначыўся» ў сваіх стасунках з музыкай? Як вы мяркуеце ўплываць на дарослых?**

— Надзеі нашы звязаны, канечне, з аўдыторыяй самага чулага ўзросту: дашкольнікамі і малодшымі школьнікамі. Але нельга адмаўляцца ад пошуку дзейсных форм работы з моладдзю, з падлеткамі. Для гэтага патрэбны людзі, здольныя да такой работы, бо нельга працаваць з моладдзю, як некалі. Трэба жыць яе эмоцыямі, гаварыць яе мовай — каб зацікавіць, павесці за сабой. І мяне здзіўляе, што ў гэтай сітуацыі неапраўданыя паўнамоцтвы атрымаў камсамол. Фактычна некампетэнтным людзям дадзена права камерцыйнай дзейнасці ў сферы музычных інтарэсаў моладзі — гэта ж толькі паглыбляе крызіс у эстэтычным выхаванні! А што датычыць дарослых... У якасці станоўчага прыкладу назаву ініцыятыву Магілёўскага аддзялення МТ, дзе спрабуюць зрабіць цыкл-«лікбез» для настаўнікаў агульнаадукацыйных школ. Ліквідаваць невуцтва настаўнікаў, якія пагардліва ставяцца да размоў пра музычнае выхаванне, да сваіх калег — выкладчыкаў музыкі, спеваў, — вельмі важная задача. Наогул, паўтаруся, неабходна, так бы мовіць, здружыць ДМШ і школы агульнаадукацыйныя, стварыць пярвічныя арганізацыі МТ у школах — тады будзе сапраўдны эфект музычнага выхавання і асветніцтва.

**— Пакуль МТ асветніцкую работу вядзе праз лекцыі-канцэрты. Магло ж бы што-небудзь і яшчэ?**

— Хацелася б разнастаіць формы асветніцтва, распрацаваць сістэму дагавораў з прадпрыемствамі і ўстановамі на сталае і ўсебаковае музычна-эстэтычнае абслугоўванне розных катэгорый насельніцтва. Шкада, што таварыству не аддалі, як мы прасілі, гарадскія студыі гуказапісу. Яны падпарадкоўваюцца Міністэрству бытавога абслугоўвання, і мо таму нікога не турбуе, за кошт якога рэпертуару існуюць і даюць прыбытак гэтыя выгадныя для дзяржавы студыі. Я ведаю выпадкі, калі ў студыі, размешчаныя на цэнтральных вуліцах нашай сталіцы, звярталіся людзі, каб перапісаць што-небудзь з беларускіх народных мелодый, і ім адмаўлялі, бо такога ў рэпертуары няма. А няма не па прычыне якіх-небудзь ведамасных рэгламентацый, а толькі таму, што беларускі рэпертуар не цікавіць саміх работнікаў «музычнага сервісу», ён для іх проста не існуе. Я ўжо не кажу пра маральны бок такой пазіцыі нашай сферы паслуг—гэта ж проста непрафесійны падыход да справы! Музычнае таварыства ставілася б да яе, вядома, інакш, і бюджэт рэспублікі наўрад ці пацярпеў бы ад таго, што тысячы рублёў прыбытку ад студый ішлі б непасрэдна, мінуючы дзяржаўную кішэню, праз МТ — на развіццё мастацтва, на ўздым культуры. Сюды ж так або інакш выдаткоўваюцца фінансы!

**— Да вас, Міхась Паўлавіч, быў ужо прэтэндэнт на гэтыя студыі — дзяржаўныя органы культуры. І ёсць пэўная рацыя ў тым, каб яны належалі не Мінбыту, а Міністэрству культуры, але... Так што змагацца за «Моцарта ў сэрцах» Музычнаму таварыству наўрад ці давядзецца разам з Мінбытам і ягонымі студыямі гуказапісу.**

— Ну, што ж... Затое ў нас ёсць аднадумцы, саюзнікі ў Міністэрстве культуры рэспублікі і Міністэрстве народнай адукацыі, з удзелам якіх у канцы верасня правядзём рэспубліканскі педсавет на тэму: «Узаемадзеянне ўстаноў народнай адукацыі, культуры, музычных навучальных устаноў у вырашэнні пытанняў выхавання падрастаючага пакалення». Прадбачу, што будзе нямала вострых выступленняў і канструктыўных прапаноў. Чакаем ад практыкаў-музыкантаў, педагогаў зацікаўленага абмену вопытам. Напрыклад, прафесар В. Роўда пабываў нядаўна па лініі МТ у ФРГ, дзе на працягу дзесяці дзён знаёміўся з сістэмай музычнай адукацыі дзяцей. І калі ён падзеліцца сваімі ўражаннямі на педсавеце, гэта будзе ўклад у агульную нашу справу, дапамога ўсім, хто клапоціцца пра культурную будучыню рэспублікі.

**— Міхась Паўлавіч, а чаму апошнім часам сціхлі размовы пра падзею, якая можа мець вялікі выхаваўчы ўплыў, шмат у чым вызначаць культурнае аблічча Беларусі, перспектыву духоўнага развіцця многіх і многіх людзей? Я наконт стварэння ў Мінску Пеўчага поля. Гады тры таму тэлебачанне нават правяло цыкл перадач са спрэчкамі пра месца будаўніцтва поля, пра рэгламент самога свята, яго жанравую структуру, рэпертуар і г. д.**

— Дзеячы беларускай культуры і мастацтва ўсё жыццё чакаюць рэспубліканскага свята песні. І, нарэшце, пра яго загаварылі ўсур'ёз. Калі з'явілася МТ, мы зацвердзілі свой план падрыхтоўкі свята, удакладнілі абавязковы рэпертуар, правялі пасяджэнне харавой секцыі, рэспубліканскую канферэнцыю хормайстраў. На месцах пачалі вучыць рэпертуар. Крыху пазней мы сабралі харэографаў, каб далучыць іх да падрыхтоўкі свята. (Увогуле, МТ магло б узяць на сябе функцыі яго творчай падрыхтоўкі і забяспечыла б усё як мае быць). А забеспячэнне будаўніцтва самога Пеўчага поля ўскладалася на гарадское кіраўніцтва. Былі альтэрнатыўныя праекты, былі сустрэчы беларускіх архітэктараў з вопытнымі акустыкамі і эксплуатацыйнікамі, якія мелі дачыненне да праектаў пеўчых палёў у прыбалтыйскіх рэспубліках або даглядаюць іх зараз, ведаюць да драбніц вартасці або пралікі канкрэтнай тэхналогіі. Ды раптам высветлілася, што будаўніцтва Пеўчага поля, адкрыццё якога намячалася на 92-гі год, пераносіцца на больш далёкі тэрмін. Якія прычыны — не ведаю дасюль. Калі яны аб'ектыўныя і важкія, дык чаму прадстаўнікі кіруючых органаў рэспублікі не сустрэнуцца з музычным актывам і не растлумачаць? А то ствараецца ўражанне, што па-ранейшаму дзейнічае ў нас рэшткавы прынцып не толькі вылучэння сродкаў на культуру, а і самога стаўлення да праблем культуры.

Я не буду рабіць зараз параўнанняў з Украінай, дзе пеўчыя палі мяркуецца пабудаваць у кожным абласным цэнтры. Гэта ўжо зроблена ў Палтаве, у Хмяльніцкім. Таварыства на Украіне існуе ўжо 30 гадоў, мае важкі рахунак у банку, так што можа разам з дзяржаўнымі органамі фінансаваць будаўніцтва аб'ектаў культуры. Мы ж толькі становімся на ногі, наш капітал, як кажуць, сімвалічны. Але гэта не значыць, што мы павінны маўчаць і не падаваць свой голас у сітуацыях, вызначальных для беларускай культуры!

Вось, напрыклад, пайшла пагалоска, што свята песні можна правесці і на стадыёне. Ды ўжо сама такая думка абражае ідэю! Адна справа — камерцыйныя рок-канцэрты пад фанаграму (у іх сапраўднай «каштоўнасці», дарэчы, ужо разабраліся расчараваныя наведвальнікі стадыёна). Другая справа — мастацка-спартыўныя відовішчы, прымеркаваныя да ўсенародных святаў, фестываляў. І зусім іншая справа — свята песні. Пры чым жа тут стадыён «Дынама»? Можа, нам запрапануюць іпадром або танкавы палігон, бо там яшчэ больш месца? Наша таварыства рашуча абараняе ідэю свята на Пеўчым полі і спадзяецца на яе ажыццяўленне.

**— Пеўчае поле — гэта ж не міфічны амерыканізаваны «парк цудаў», ідэя якога быццам звалілася з неба ўслед за тымі неспадзяванымі мільярдамі! Гэта зусім рэальная і даўняя культурная патрэба народа, для задавальнення якой, пэўна, мільярды і не спатрэбяцца. Але, я думаю, цяганіна не скончыцца, пакуль урад рэспублікі, кіраўніцтва горада, а можа, і кіраўнікі заможных прадпрыемстваў і сельскіх гаспадарак, і прафсаюзы, і нефармальныя суполкі не ўсвядомяць, што вырашэнне праблемы Пеўчага поля ў рэспубліцы мае і высокі гуманістычны сэнс, і надзённы палітычны змест, і таму трэба ўключацца ў справу. Пачнецца справа — з'явіцца перспектыва, а там і плён..**

**Задумалі ж некалі музыканты ўшанаваць памяць І. Жыновіча, надаўшы ягонае імя новаму конкурсу маладых выканаўцаў, зрабілі першы крок — і атрымалася нават свята народна - інструментальнай музыкі. Потым адбыўся Рэспубліканскі конкурс вакалістаў імя Л. Александроўскай. У Музычнага таварыства разам з Міністэрствам культуры ёсць і далейшыя задумкі, так?**

— Неўзабаве ў нас з'явяцца традыцыйныя харавыя фестывалі імя Г. Цітовіча — для народных калектываў і імя Р. Шырмы — для акадэмічных. Думаю, з часам арганізацыя ўсіх нашых беларускіх «фірменных», імянных конкурсаў і аглядаў будзе клопатам МТ і музычных навучальных устаноў. Трэба вызваліць ад гэтага цяжару Міністэрства культуры, якое трымае на сабе адказнасць за правядзенне буйных мерапрыемстваў: «Беларуская музычная восень», «Мінская вясна», Усесаюзны фестываль польскай песні, разнастайныя творчыя конкурсы, Дні культуры і інш. Наша ж таварыства па меры магчымасці ўдзельнічае поруч з іншымі арганізатарамі ў многіх справах. Рэспубліканскае свята духавой музыкі, «Палескае свята» баяністаў і акардэаністаў у Гомелі прайшлі з нашым удзелам, зараз рыхтуемся да рэспубліканскага свята беларускага фальклору і старадаўняй музыкі, прысвечанага 500-годдзю Ф. Скарыны, да ўжо другога свята «Звініце, цымбалы» (першае было ў Віцебску, наступнае плануецца ў Гомелі). Разам з Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі правядзём у Баранавічах агляд-конкурс вялікіх эстрадных аркестраў рэспублікі. Пры падтрымцы Усесаюзнага музычнага таварыства і разам з БДК наладзім у кастрычніку Усесаюзныя курсы выканаўчага майстэрства «Акадэмія старадаўняй музыкі». Заняткі клавесіністаў будзе весці З. Ружычкава (ЧССР), арганістаў— масквіч А. Янчанка, удзельнічае таксама спецыяліст па ансамблі старадаўняй музыкі педагог БДК Э. Габрыэлян і інш. Курсы платныя, але для вядучых спецыялістаў рэспублікі, лепшых студэнтаў БДК, актывістаў таварыства мы паспрабуем наладзіць заняткі за кошт МТ.

**— Калі ласка, Міхась Паўлавіч, раскажыце крыху пра абласныя і гарадскія аддзяленні таварыства. У якіх умовах існуюць, чым займаюцца?**

— Абласныя аддзяленні ўтварыліся крыху больш чым год таму. Старшыні іх, як і ў рэспубліканскім праўленні, працуюць на грамадскіх асновах. Ёсць і канкрэтныя справы. У Гомелі, як ведаюць чытачы «ЛіМа», праведзена «Палескае свята»; утвораны сімфанічны аркестр. Між іншым, калі аркестр выступіў перад удзельнікамі абласной партыйнай канферэнцыі, гэта настолькі ўразіла кіраўнікоў вобласці, што яны самі прапанавалі дапамагчы ў забеспячэнні калектыву. Дапамог і абласны савет прафсаюзаў. Спрабавалі нашы калегі-гамяльчане стварыць і дзіцячы музычны тэатр. Група

энтузіястаў паставіла музычную казку маладога беларускага кампазітара Я. Магаліфа «Бармалей», у спектаклі з задавальненнем удзельнічалі дзеткі. Але ўсё на тым і скончылася, бо тэатр без памяшкання існаваць не можа.

**— Няўжо ніводнае з буйных прадпрыемстваў Гомеля не знойдзе для дзяцей прытулак у сваім Палацы культуры ці клубе? Гэта ж — дзеці, мо нават і дзеці тых, хто працуе на заводах!**

— На жаль... Гаспразлік не дазваляе адміністрацыі займацца дабрачыннасцю і аддаваць сцэну, залу ці які-небудзь пакойчык тым, хто не можа заплаціць. Адзінае суцяшэнне: у Гомелі будуецца, умоўна кажучы, Дом творчых саюзаў, пад яго дахам, відаць, знойдзецца места і для МТ. Між іншым, Гомельскае аддзяленне мае ўжо вядомыя сярод спецыялістаў вытворчыя майстэрні па рамонце і настройцы музычных інструментаў. Людзі тут працуюць вельмі кваліфікаваныя і сумленныя, работы выконваюць з гарантыяй. Гэта выбівае апору ў справах розных халтуршчыкаў. Толькі памяшканне, дзе прытуліліся майстэрні, у аварыйным стане, а іншага будынка пакуль не знойдзена.

Таварыства ў Магілёве ўзяло на сябе абслугоўванне розных мясцовых і прафесійных святаў. Напрыклад, Дзень працаўнікоў сельскай гаспадаркі, Дзень машынабудаўніка, Дзень работнікаў міліцыі. Прадпрыемствы, установы, працоўныя калектывы заключаюць з таварыствам доўгатэрміновыя дагаворы аб творчай садружнасці і наогул ахвотна звяртаюцца да паслуг МТ: узровень не горшы, а плаціць трэба менш, чым просяць за тую ж работу музычныя кааператывы.

Брэстаўчане вядуць музычна-асветніцкую дзейнасць па абанементах: «Студзеньскія музычныя вечары», «Музычныя нядзелі», дапамагаюць арганізоўваць слухачоў на філарманічныя канцэрты. Да 50-годдзя Брэсцкага музвучылішча рыхтуецца адкрыццё музея музычнай культуры Брэстчыны. Шкада, што тутэйшае МТ не мае падтрымкі з боку абласных партыйных і савецкіх органаў. І кіраўніцтва Віцебшчыны чамусьці недаацэньвае патэнцыял МТ, не разумее значэння новай арганізацыі для жыцця вобласці.

А вось гродзенцы падтрымку маюць. Тут увагу засяродзілі на выхаванні дзяцей — пра гэта я ўжо гаварыў у пачатку нашай размовы. Затое, як ні дзіўна, у вакууме недаверу існуе Мінскае абласное аддзяленне. Ні памяшкання, ні падтрымкі з боку абласных дырэктыўных органаў. Тым не менш, аддзяленне сур'ёзна занялося асветніцтвам. Тут і прапаганда класічнай спадчыны, і аўтарскія канцэрты, і творчыя сустрэчы, і лекцыі-канцэрты, якасць якіх кантралюе мастацкі савет. Тут і дапамога пярвічным арганізацыям у набыцці нот, грамзапісаў, у вырабе сцэнічных касцюмаў.

У асноўным створаны аддзяленні МТ у раёнах і гарадах, ды амаль усе яны бядуюць, не адчуваючы асаблівай кіраўнічае ласкі...

**— А ці даўно, Міхась Паўлавіч, беспрытульным было і праўленне рэспубліканскага МТ? Зараз як легенду расказваюць пра вашы першыя арганізацыйныя сходы, калі вы, ды ваш намеснік Томас Мацвеевіч Курыла, ды яшчэ бухгалтар сустракаліся на лаўцы ля купалаўскага тэатра ці ля лесвіцы Дома мадэляў — каб на каменным парапеце раскласці і падпісаць дзелавыя паперы! Вось, нарэшце, і памяшканне для вашага апарату ёсць, і першы нумар свайго выдання выпусцілі, і вытворчы камбінат па вырабе, рамонце і рэстаўрацыі музычных інструментаў у ваша распараджэнне перадалі, і ён дае таварыству асноўны прыбытак. І настойліва вядуцца размовы наконт перадачы вам яшчэ і Маладзечанскай фабрыкі музычных інструментаў...**

— Дык і адчуваем мы сябе больш упэўнена: і людзям ёсць дзе сабрацца, абмяркаваць праблемы, планы, і кішэня ў нас папаўняецца. З'явілася магчымасць ствараць супольнасці членаў МТ па інтарэсах, і ўжо створаны чатыры асацыяцыі прафесійных дзеячаў музычнага і харэаграфічнага мастацтва. Супольна з упраўленнем дашкольнага выхавання Міністэрства народнай адукацыі стварылі аб'яднанне музычных кіраўнікоў дзіцячых садоў, намецілі наладзіць на базе лепшых дзіцячых садоў Мінска своеасаблівую лабараторыю для вывучэння і абмеркавання праблемы далучэння дзяцей да вытокаў беларускай нацыянальнай культуры. Члены МТ, а таксама танцавальныя і харавыя калектывы рэгулярна выязджаюць у розныя гарады краіны і за мяжу для абмену вопытам, удзелу ў канферэнцыях, фестывалях. Наладжваем сувязі з польскім таварыствам імя Г. Вяняўскага. Фальклорны ансамбль БДУ «Неруш» удзельнічае ў фестывалі «Еўрапейскія маладзёжныя сустрэчы», які адкрываецца 14 верасня ў Штутгарце.

Працаваць можна было б больш інтэнсіўна і творча, калі б не масавая пасіўнасць у дачыненні да спраў музычнага таварыства. Уступілі ў МТ пераважна прафесійныя музыканты. Нямала робяць педагогі БДК, музычныя школы пры кансерваторыі, Мінскага музвучылішча, артысты філарманічных калектываў. Але ёсць, на жаль, члены прэзідыума праўлення, якія нават не ходзяць на нашы нарады, нягледзячы на неаднаразовыя запрашэнні. Затое лічаць, што маюць права без дай прычыны зняважліва гаварыць пра таварыства. Прыкра, што ў члены МТ памкнуліся людзі, пра якіх не чулі ні прафесіяналы, ні самадзейнікі, ні музыканты-педагогі. Прыкра, бо яны памкнуліся «запісвацца ў таварыства» пасля таго, як даведаліся, што актывісты могуць набыць турпуцёўку ў замежныя краіны. Дарэчы, адразу і запатрабавалі пуцёвак! Шкада, што мала дзяцей уступае ў МТ. Для іх штогадовы ўзнос усяго 20 капеек — кошт нашага значка. Думаю, зусім даступная сума. Да таго ж, я неаднойчы пераконваўся ў гэтым на ўласныя вочы, дзеці любяць адчуваць сябе патрэбнымі ў нейкай справе дарослых.

**— Так-так. І мне расказвалі, як на фестывалі «Музычная пралеска» чэлябінскія школьнікі, члены МТ, завіхаліся сярод арганізатараў, дапамагалі афармляць залу, распаўсюджваць запрашальныя білеты сярод гараджан і да т. п.**

— Уяўляеце, якая гэта школа: і працоўнага выхавання, і грамадзянскага, і музычнага, і проста — зносін з людзьмі! Таму вельмі хочацца, каб праца МТ БССР была паўнакроўнай, з удзелам усіх, у тым ліку і самых маладых, сіл грамадства.

**— Ці не дапамаглі б вам у гэтым сувязі з творчымі саюзамі? Кампазітары ўжо з вамі поруч. А вось літаратары, кінематаграфісты, мастакі — яны ж таксама вядуць пэўную асветніцкую работу. Чаму б калі-нікалі не весці яе, грунтуючыся на сінтэзе мастацтваў?**

— У гэтым напрамку мы распачалі пошук, калі мець на ўвазе канцэрты-гутаркі, музычныя сустрэчы ў бібліятэках. Але, думаю, сапраўдны пошук разнастайных форм работы пачнецца тады, калі МТ умацуе свае пазіцыі, дакажа дзейснасць спраў, калі мясцовыя органы культуры, шматлікая армія музыкантаў, артыстаў-аматараў і педагогаў адчуюць у таварыстве не канкурэнта, а саюзніка. Думаю, многае вырашыцца і на чарговым пленуме праўлення МТ БССР, дзе будзе разгледжаны праект нашай праграмы.

**— Дзякуй, Міхась Паўлавіч, за размову.**

С. БЕРАСЦЕНЬ.

# Слова пра свой народ

**Учора ў Мінску закрылася выстаўка жывапісу і графікі Ільі ГЛАЗУНОВА**

У ЧАС работы выстаўкі мастак сустракаўся з гледачамі і са сваімі мінскімі калегамі. У оперным тэатры адбыўся творчы вечар Глазунова, частка сродкаў ад якога перададзена на рахунак Беларускага фонду культуры на пабудову помніка Францыску Скарыне ў сталіцы рэспублікі. Мастак адказаў на шматлікія пытанні, якія датычыліся яго поглядаў на гісторыю мастацтва, ягонага разумення духоўнасці і бездухоўнасці. У запісе вечар паказаны па тэлебачанні. І выстаўка, і сустрэча з мастаком выклікалі самыя розныя пачуцці ў мінскай аўдыторыі. Адны ўспрынялі Глазунова адразу і цалкам, другія знайшлі пацвярджэнне свайму непрыманню ягонага мастацтва, трэція ўбачылі нібыта розных людзей у адной асобе — Глазуноў-мастак, Глазуноў-палітык, Глазуноў-гісторык...

Але ў адным, мабыць, зыходзяцца ўсе: гэта выстаўка — значная падзея, і не толькі ў мастацкім жыцці рэспублікі. Мы ўпершыню мелі магчымасць убачыць на ўласныя вочы знаёмае раней толькі па рэпрадукцыях і чутках, так бы мовіць — памацаць легенду рукамі. У Мінску выстаўка не выклікала ажыятажу, традыцыйнага спадарожніка мастацтва Глазунова ў Маскве, але поспех яе ў сталіцы Беларусі відавочны. І справа не толькі ў добра пастаўленай рэкламе і не толькі ў недасведчанасці так званага масавага гледача (выдаткі эстэтычнага выхавання). Той, хто быў узрушаны карцінай Аляксандра Іванова «Яўленне Хрыста народу» ці палотнамі Міхаіла Несцерава, прысвечанымі тэме Святой Русі, успрымае «Вечную Расію» Глазунова без асаблівага захаплення. Ёсць мастакі, на якіх «ходзяць» без усялякай рэкламы і на якіх «не ходзяць», якую рэкламу ні зрабі. Наўрад ці Ілья Глазуноў мог бы дваццаць год трымаць у напружаным чаканні публіку і крытыкаў — маўляў, ну што ён яшчэ там выдасць? — каб сапраўды час ад часу нешта не «выдаваў».

Прымаючы многае з думак Б. Крэпака (артыкул «Парадоксы Ільі Глазунова», змешчаны ў мінулым нумары «ЛіМа»), дазволю сабе выказаць некаторыя меркаванні, якія, магчыма, дапоўняць ягоныя нататкі.

Мноства мастакоў лепей за Глазунова адчуваюць колер, лепей малююць, будуюць кампазіцыю. Але ні майстэрскім малюнкам, ні колеравай гармоніяй, ні дасканалай пабудовай карціны гледача не здзівіш. Бо ён жадае найперш бачыць у мастаку асобу — чалавека, здольнага на ўласную думку і ўласнае слова. Менавіта гэтай якасцю Ілья Глазуноў валодае. Сёння ўласную думку можна выказваць, не надта азіраючыся на бліжэйшага міліцыянера. Перабудова і публічнасць паспрыялі пэўнай разняволенасці грамадскай думкі. А вось яшчэ зусім нядаўна, як прыгадвае сярод іншага Ю. Шчакачыхін у артыкуле «Справа ўзору васьмідзесятых» («Литературная газета» за 8 жніўня г. г.), захоўванне дома рэпрадукцыі карціны Глазунова «Містэрыя XX стагоддзя» было падставай для абвінавачання ў «антысаветчыне» з адпаведнымі вынікамі для прыхільніка творчасці мастака.

Каб зразумець палотны Глазунова, трэба памятаць пра час, калі яны ствараліся. Тады на першы план выйдзе іх сацыяльны змест — пратэст супраць бездухоўнасці і нацыянальнага нігілізму, выказаны ў форме, зразумелай для грамадства «застойнага часу». Падобна на тое, што мастак свядома збядніў сваю жывапісную мову, пазбягаў складаных псіхалагічных калізій. Усё для таго, каб быць зразумелым. Па сутнасці, ён займаўся і зараз займаецца папулярызацыяй расійскай гісторыі, асветніцтвам. Чыста жывапісныя пытанні, фармальныя пошукі для яго на другім месцы. Сёння ўжо відавочная просталінейнасць «Містэрыі XX стагоддзя», як відавочныя і пластычныя заганы гэтага палатна. Хто ведае, як праз некалькі гадоў будзе ўспрымацца «Вечная Расія»?

Гістарычная канцэпцыя, якую Ілья Глазуноў адлюстраваў у гэтым палатне, падаецца мне спрэчнай. Я — беларус, і гэта вызначае мой погляд на расійскую гісторыю. Мяне, скажам, мала кранае лозунг «Масква — трэці Рым, а чацвёртаму не бываць!» Расія мне не чужая, як не чужыя і іншыя суседзі на планеце. Мне ў роўнай ступені дарагія рыжскі Помнік Свабоды, кіеўская Сафія, саборы Крамля і кракаўскі Вавель. Разам з тым я не магу ўспрымаць як святога князя Уладзіміра, хоць ён і кананізаваны рускай праваслаўнай царквою. Так, ён паклаў пачатак хрысціянству на Русі. Але ж да гэтага ён спаліў Полацк, гвалтам узяў Рагнеду на вачах яе бацькоў і братоў, а потым на вачах Рагнеды іх забіў. Дарэчы, афіцыйныя гісторыкі праваслаўя і самадзяржаўя ўжо якое стагоддзе спрабуюць абяліць Уладзіміра, перакінуць віну за гэтыя злачынствы на ягонае асяроддзе, сваякоў — не атрымліваецца. Нездарма полацкія князі — нашчадкі Рагнеды — не давалі сваім дзецям імя «Уладзімір», нездарма з варожасцю глядзелі ў бок Кіева, нездарма пабудаваная на крыві дзяржава не вытрымала ўдару татарскай конніцы.

Спрошчана трактуе мастак стасункі Русі (дакладней, той яе часткі, якая потым стала Маскоўскай дзяржавай) і Арды: зверападобны татарын з чаркай сядзіць на трупах рускіх князёў, а побач — аголеная паланянка. Ёсць і другая думка. Рускі гісторык Леў Гумілёў пісаў нават пра «сімбіёз Русі і Арды». Гэта, відаць, перабольшанне, але тое, што Арда сыграла пэўную ролю ва ўтварэнні палітычных інстытутаў Маскоўскай дзяржавы, — гістарычны факт. Дарэчы, і Русь Маскоўская, Русь Літоўская абапіраліся на Арду ў барацьбе між сабою.

Схематызм у кампазіцыі і аднамернасць у трактоўцы гістарычных падзей адчуваюцца і ў іншых эпізодах «Вечнай Расіі». Ці мог аўтар гэтага пазбегнуць? Думаю, што не. Узяўшыся намаляваць на адным палатне «сто вякоў» (у літаральным сэнсе), Ілья Глазуноў непазбежна павінен быў збіцца на пералік імёнаў і падзей. І ўсё роўна на ўсе плошчы карціны не хопіць; і ўсё роўна гледачы будуць пытаць, чаму нехта намаляваны, а нехта не, чаму ў той ці іншай асобы не выяўлены тыя ці іншыя рысы.

Для мяне асабіста «Вечная Расія» ўвасоблена ў геніяльным палатне Сурыкава «Раніца стралецкай кары». Народная трагедыя — братазабойства, знішчэнне цэлага саслоўя; гвалтоўнае зацвярджэнне ідэі, што чалавек — нішто, а дзяржава — усё. Гэта цана «паскоранага» развіцця Расіі ў пятроўскую эпоху. На жаль, тое ж было і ў навейшай гісторыі Расіі і звязаных з ёю агульным лёсам народаў. Аналіз адной кроплі марской вады дае ўяўленне пра тое, што такое мора. Адно імгненне «на зломе эпох», убачанае мастаком, дае больш для разумення гісторыі народа, чым даволі падрабязны пералік падзей і асоб.

І ўсё-такі я лічу «Вечную Расію», цэнтральнае палатно выстаўкі Глазунова ў Мінску, — творам безумоўна цікавым і сёння неабходным. Гэта сведчанне абуджэння рускай нацыянальнай свядомасці. Гэта спроба зазірнуць углыб гісторыі, за V стагоддзе, ад якога звычайна адлічваюць гісторыю ўсходняга славянства.

Ілья Глазуноў сказаў сваё слова. З яго думкамі будуць спрачацца. Думаю, найперш беларусы і украінцы, у якіх шмат кропак дачынення з Расіяй у этнічнай, палітычнай і культурнай гісторыі і, адпаведна, шмат спрэчных пытанняў. А значыць, з'явяцца новыя творы, у якіх мастакі, выходзячы з вопыту Глазунова, паспрабуюць сказаць сваё слова пра гістарычныя шляхі сваіх народаў.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.

## ВЕЧАР ДРУЖБЫ

**У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі ў рамках дэкады, прысвечанай 42-й гадавіне незалежнасці Рэспублікі Індыі і 18-й гадавіне падпісання дагавора аб міры, дружбе і супрацоўніцтве паміж Савецкім Саюзам і Індыяй, прайшоў вечар савецка-індыйскай дружбы.**

**Першы намеснік Генеральнага дырэктара Беларускага рэспубліканскага НВА «Парашковая металургія» П. Віцязь і супрацоўнік гэтага аб'яднання В. Гарабцоў расказалі аб супрацоўніцтве паміж дзвюма краінамі. Аб знамянальных і культурных сувязях савецкага і індыйскага народаў прыгадаў супрацоўнік Мінгарвыканкома С. Барташ.**

**Прысутных, сярод якіх былі індыйскія студэнты, а таксама члены мінскага клуба «Сябры Індыі», віталі прадстаўнік Ленінградскага аддзялення таварыства сувязей з замежнымі краінамі, кіраўнік ансамбля індыйскіх танцаў клуба «Лотас» Ірына Футэр, якая выканала некалькі індыйскіх танцаў.**

**Прыезд Ірыны Эмануілаўны ў Беларусь невыпадковы. І. Футэр — унучка вядомага беларускага сатырыка і гумарыста Анатоля Дзеркача. Цяпер яна з маці адпачывае ў Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач».**

**НАШ КАР.**

## ШЭФСКІ КАНЦЭРТ

**У мінскім Доме афіцэраў артысты Горкаўскага акадэмічнага тэатра драмы імя М. Горкага, якія знаходзяцца на гастролях, далі шэфскае выступленне воінам гарнізона. Госці паказалі сатырычную камедыю М. Разоўскага «Канцэрт Высоцкага ў НДІ», пастаўленую на сцэне гаркаўчан аўтарам.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

